PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (1937) ГОД XXXVIII • БЕЛАСТОК 27 ЧЭРВЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Нарэшце канікулы!* Фота Л. Пільскага

## СУХА!

Добра сёлета сохла сена. Хутка справіліся гаспадары са звозкай. Але іхняя радасць не была бясхмурная (як неба ў той час), бо тут жа з'явілася няўпэўненасць — ці на месцы скошанай вырасце новая трава, ці не выгарыць яна і ці будуць новыя пакосы сена?

Надыходзячае жніво таксама не абяцае багатага плёну. Жыта яшчэ сяктак вырасла, але ўжо ярына — шкада і казаць. Аўсы адбіліся ад зямлі на якую пядзю і цяперака тырчаць жоўтымі, засушанымі парасткамі. Калі б пайшоў дождж, сітуацыя магла б яшчэ паправіцца, але ўжо не нашмат.

Аднак, ці будзе гэты доўгачаканы дождж? І то яшчэ ў патрэбнай колькасці? Наўрад. Усё паказвае, што тэмпература паветра ў нас расце, а вільготнасць яго, як і глебы, зніжаецца.

У Беластоку ў маі гэтага года — паводле мясцовага Інстытута метэаралогіі — сярэдняя тэмпература была 15,5 градуса паводле Цэльсія. Сярэдняя для гэтага месяца за апошнія 30 гадоў — 12,4 ° С. Атмасферныя ападкі ў маі г.г. былі роўныя 30 міліметрам (гэта тое ж, што 30 літраў на квадратны метр). Для апошніх 30 гадоў сярэдняя ападкаў у маі — 50 міліметраў.

Ужо некалькі гэтых лічбаў пацвярджае характар зменаў у нашым клімаце — робіцца цяплей і больш суха. Гэта адчувае перш за ўсё вёска. Засуха адмоўна ўплывае на плён, у калодзежах рэзка зніжаецца ўзровень вады, што з'яўляецца вялікай праблемай у мясцовасцях без вадаправода. Узрастае, урэшце, пагроза пажараў.

У маёй вёсцы — Вялікія Тыневічы Нараўскай гміны — 10 чэрвеня клуня (з сенам, камбайнам ды іншымі машынамі — арыентацыйная вартасць 700 мільёнаў злотых) згарэла датла за паўгадзіны. Пакуль паспела пажарная страж, было ўжо фактычна па пажары. У гэты ж самы дзень пасля поўдня ў ваколіцы, на хутары каля вёскі Волька, зноў было відаць дым. Успыхнуў ён напачатку чорнымі клубамі, каб пасля дзесяці мінут зрабіцца белым і яшчэ праз некаторы час зусім расплысціся. Зноў згарэла клуня, а пажарнікі маглі толькі паглядзець папялішча.

З другога боку Тыневіч ужо ад нейкага часу пастаянна ўдзень відаць дым, а ноччу чырвонае зарыва. Гэта гарыць торф каля Нарвы і Макаўкі. Патушыць яго, нягледзячы на заангажаваныя вялікія сілы пажарнікаў, наўрад ці ўдасца, пакуль не выгарыць ён на поўным абшары і пакуль не дапаможа надвор'е.

Гэта пералік няшчасцяў, якія пасрэдна ці непасрэдна кранулі толькі адну з нашых вёсак на працягу аднаго тыдня ў пачатку чэрвеня.

Пра баланс у канцы года для цэлай Беласточчыны страшна нават думаць.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## УСПОМНІЎ ДЗЯДЗЬКА БАЛАХОВІЧА

- Што вы, дзядзька Рыгор, прыглядаецеся гэтаму будынку, мо купіць хочаце?

85-гадовы Рыгор Байко ўсміхаецца і кажа:

- Не збіраюся, бо і навошта мне яшчэ адзін дом. А так сапраўды, мне ўжо пара думаць пра той дом, што на могільніку.

Тым, хто не ведае, паясняю, што Рыгор Байко з Белавежы некалькі год назад збудаваў сабе грабніцу. А будынак, якому ён прыглядаўся - гэта т. зв. Дом праўлення, што стаіць у белавежскім палацовым парку.

- Бачыш, Пётр, - адзываецца, пасля хвіліны роздуму, дзядзька Рыгор, - у гэтым будынку, перад апошняй вайной жыў генерал Балаховіч. Праходзячы побач, мне ўспомнілася, як я, са сваім сябрам Грышам Ляхам, у яго гасцявалі.

- Генерал вас папрасіў у госці? - здзіўляюся. - То ж вы ў тыя гады былі хіба яшчэ хлапчукамі!?

- Ну, так, - без ценю збянтэжанасці адказвае мне сп. Рыгор. - Былі хлапчукамі. Пайшлі мы аднойчы ў парк пагуляць... Ведаеш - прыцэліцца каменем у ліхтар, напалохаць птушку, такія ў нас былі дурныя гульні, бо і самі былі яшчэ дурнымі. І вось, пры нас нечакана паявіўся нейкі мужчына. Спытаў, хто мы і што тут робім. Потым папрасіў нас да сябе, у дом. Спярша пачаставаў нас, а потым загадаў пайсці ў агарод за домам і памагчы выбраць гародніну. Мы ахвотна зрабілі гэта. Мяне яшчэ папрасіў, каб я пачысціў каня. Падышоў я да каня, а ён вельмі прыгожы быў, шэльма, і пачаў чысціць. У нейкі момант конь мяне моцна штурхануў, тады я яму ўрэзаў віткай. Па гэтым астаўся след. Неўзабаве прыйшоў гаспадар праверыць, як я выканаў задачу. Адразу ўбачыў тую ж палосу на целе каня. Спытаў, чаму я ўдарыў жывёлу. Я яму адказаў згодна з праўдай. "Усё ж, нельга біць жывёлу", - сказаў мне мужчына. Потым папрасіў нас на абед, а калі мы ўжо з'елі, даў нам некалькі злотых і адправіў дамоў. Толькі пазней мы даведаліся, што гэты мужчына - генерал Станіслаў Булак-Балаховіч.



*Рыгор Байко на фоне каплічкі, што непадалёку царквы.*

- У міжваенны перыяд у Белавежы жыло шмат "балахоўцаў", значыць жаўнераў Балаховіча, - дабаўляю.

- А шмат, шмат, - згаджаецца мой размоўца. - Гэта наогул былі, менш ці больш, але адукаваныя людзі, многія з іх мелі нейкую прафесію. Толькі што правільна выкарыстаць яе ў той час, у Белавежы, не надта маглі, а прынамсі не ўсе. Многія працавалі пры высечцы лесу, якую вяла ў той час англійская суполка "Цэнтура" ("Century"- П.Б.) Памятаю, што паміж гэтымі нядаўнімі жаўнерамі часта даходзіла да боек. Я не надта ведаю, што было іх прычынай, найхутчэй водка, але я прыкмеціў, што адны мужчыны хадзілі ў штанах з белымі лампасамі, а другія - з чырвонымі. Відаць былі гэтыя казакі з розных групаў ці месц. Штосьці мне напамінаецца, што адных называлі данскімі, а другіх, бадай, кубанскімі. Магчыма, што і на гэтай глебе ўзнікалі спрэчкі. Я гэтым ніколі бліжэй не пацікавіўся.

- А як гэтыя спрэчкі ці бойкі канчаліся? - пытаю.

- Што ж, у такіх выпадках клікалі "Бацьку", бо менавіта гэтак паўсюдна называлі генерала. Паліцыя не мела права займацца справамі, якія датычылі "балахоўцаў". Нават калі разбушаваных мужчын прыводзілі на пастарунак, то звалі "Бацьку" і той сам вырашаў, якую кару назначыць сваім падначаленым. Часта адзін віноўнік па загаду "Бацькі" рэзаў

☞ Працяг на стар. 3

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*NZS w Białymstoku nie istnieje od ponad roku. Na polu działania pozostał stary, liczący ponad tysiąc członków Związek Studentów Polskich.*

*(Gazeta Współczesna, Nr 111)*

**Адно ўдакладненне: у Беластоку існуе яшчэ Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Магчыма, што не *na polu*, а w ogródku, ale zawsze!**

* * *

*Чаму засмучаны Лёнік?*

*... каталогу няма, не надрукаваны намаляваны мастаком плакат, а замест яго ў „пажарным парадку" зроблена прымітыўная шрыфтавая афіша, да таго ж з граматычнымі памылкамі.*

*У ноч перад вернісажам мастак не спаў. (...) Каб выстава адчынілася ў абвешчаны афішай час, Лёнік быў вамушаны сам развешваць карціны...*

*(...) Мастака абразілі свядома. Мастаку (і ўсім, хто яго шануе, хто ганарыцца, што Лёнік — беларус) далі зразумець: што хто б ты ні быў „там", на Захадзе, „тут" гэта не мае ніякага значэння. „Тут" усё па-ранейшаму, і галоўная фігура ў нашым мастацтве не творца, а чыноўнік.*

*(ЛіМ, н-р 22)*

Ну, пачакайце ж! Хай толькі Пазьняк прыйдзе да ўлады. Пазьняк, усё-такі, гісторык мастацтва па адукацыі.

* * *

*Taki na przykład Helmut Kohl to sobie sam otwiera butelkę piwa i sam sobie nalewa. Podobnie Bill Clinton. Stoi w Białym Domu ekspress do kawy i szef najbogatszego mocarstwa osobiście trzyma filiżankę za ucho i leje. A u nas byle podsekretarzyna, że się tak wyrazimy, stanu, a wokół zgięci w pół kelnerzy płci obojga odgadują na wyprzódki każde jego życzenie.*

*(Gazeta Polska, nr 23)*

Не таму мы змагаліся з камунаю, каб самім сабе, так бы мовіць, каву наліваць.

* * *

*Ужо вядома: у адказ на гатоўнасць беларускага ўрада адмовіцца ад нейтралітэту дзеля большага збліжэння з Масквой расійскі бок вуснамі Сяргея Шахрая заўважыў, што не настойвае на абавязковай увязцы гэтых дзвюх праблем, — стварэнні саюзаў эканамічнага і ваеннага. Пасля таго, як беларуская дэлегацыя, прапанаваўшы ўсе магчымыя і немагчымыя ўступкі, пачала прасіць новыя тэхнічныя крэдыты і новыя пастаўкі з Расіі сыравіны па танных цэнах, — расійскі бок адмовіў у катэгарычнай форме. Больш таго, Расія пачала настойваць на афармленні беларускага доўгу і наступнай яго капіталізацыі пад унутраныя актывы краіны. На практыцы гэта абазначае тое, што нашы ўсходнія сябры патрабуюць, каб за даўгі Беларусь прадавала расійскім інвестарам свае прамысловыя прадпрыемствы і іншую ўласнасць.*

*(Звязда, н-р 102)*

Як было раней, так і застаецца: беларусы розуму вучацца ў Маскве. Магчыма, што нарэшце навучацца: асабліва цяпер, калі навука тая не толькі вірыць у галаве, але і бурчыць у жываце.

* * *

*Асаблівую нянавісць антыбеларускіх сіл заслужыла Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ). Гэты грамадска-патрыятычны рух узяў на сябе місію ў цяжкіх умовах, нярэдка ў непрыхільнай да беларушчыны атмасферы ў сучасным войску прапагандаваць уласным прыкладам беларускі дзяржаўны патрыятызм, вяртаць у войска беларускую мову і традыцыі, тым самым пераадольваючы адчужанасць паміж новастворанай беларускай арміяй і беларускім народам.*

*Але замест таго, каб падтрымаць і развіць шматлікія ініцыятывы БЗВ, што было б натуральным для войска маладой незалежнай дзяржавы, Міністэрства абароны па загаду кіруючай наменклатуры робіць усё, каб расправіцца з актывістамі згуртавання. Ужо беспадстаўна звольнены з войска многія актывісты БЗВ. (...) ... звольнены з Узброеных Сіл старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўнік Мікола Статкевіч... У той жа час спакойна даслужваюць хабарнікі і зладзеі, а некаторыя з іх займаюцца яшчэ і палітычнай дзейнасцю, якая вайскоўцам забаронена законам.*

*(Народная газета, н-р 103)*

**Бо Міністэрства абароны абараняе народ перад беларусамі, вось што. Пошли они к чёртовой матары, эти, подумаешь, вайскоўцы! Не надо! Смирно!**

* * *

*Obliczono dokładnie: w ciągu siedemdziesięciu jeden lat straciło życie (w byłym ZSRR — red.) 9763326, a zdrowie — 29878153 żołnierzy. Ile było ofiar wojskowych czystek, ile tych, którzy z fińskiej czy niemieckiej niewoli szli wprost do łagrów, ile partyzantów, ofiar poligonów i „diedowszczyny" — bestialskich często represji starszych roczników wobec rekrutów? Jeszcze nie wiemy.*

*(Polityka, nr 23)*

* * *

*Moim zdaniem, o czym nie mówi się prawie wcale, udział chłopa w przetrwaniu narodu polskiego był zasadniczy. Chłop często nie wiedział, że jest Polakiem, ale były trzy elementy, trzy słupy milowe, na których wspierało się trwanie w polskości: ziemia, język, wiara. Ja to nazywam podświadomością narodową.*

*(Polityka, nr 23, z wywiadu z pisarzem Wiesławem Myśliwskim).*

# З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

Выбарчы камітэт праваслаўных паўстаў 15 чэрвеня ў Беластоку. Стварылі яго прадстаўнікі беларускіх арганізацый, Праваслаўнага брацтва, Саюза ўкраінцаў Падляшша і Таварыства „Русь".

**Міністр нацыянальнай абароны Януш Аньшкевіч** і літоўскі міністр аховы краіны **Аўдрыюс Буткевічус** падпісалі ў Вільні пагадненне аб устанаўленні двухбаковага супрацоўніцтва. Адносіцца яно, між іншым, да ўдасканальвання прафесійнага ўзроўню салдат, кантролю паветранай прасторы і Балтыйскага мора, ваеннай тэхнікі. Пагадненне прадбачвае развіццё ўзаемных кантактаў — візіты, кансультацыі, курсы і практыкі студэнтаў ваенных ВНУ, а таксама супольныя спартыўныя мерапрыемствы.

**Пагадненне аб супрацоўніцтве архівістаў Польшчы і Літвы** было падпісана 11 чэрвеня г.г. у Беластоку. З польскага боку дакумент парафіраваў галоўны дырэктар Дзяржаўных архіваў праф. **Ежы Скаўронак**, а з літоўскага — генеральны дырэктар Архіваў Літвы **Гедымінас Ілгунас**. Абодва бакі абавязаліся ўзаемна дапамагаць сабе ў пошуках дакументаў. Гісторыкам здаўна вядома, што найбольш дакументаў аб гісторыі Літвы знаходзіцца ў Польшчы, а ў Літве — захоўваюцца многія „polonica". Прысутны на сустрэчы ў беластоцкім архіве рэктар Філіяла ВУ праф. **Уладзіслаў Сэрчык** заявіў, што без доступу да літоўскіх архівасховішчаў даследаванне гісторыі паўночна-ўсходняга рэгіёна было б намнога цяжэйшым.

**Пасля неафіцыйнага візіту беларускіх архівістаў** у Варшаву стала вядома, што польскія даследчыкі будуць маглі карыстацца архіўнымі дакументамі, якія датычыць дзейнасці АК, этнічных чыстак у 1930-х — 1940-х гадах і праследаванняў Каталіцкага касцёла. У справе рассакрэчання дакументаў аб дзейнасці НКУС, якія знаходзяцца ў беларускіх архівах, беларускі бок будзе кансультавацца з Расіяй.

**113 гадавіну нараджэння** святкавала жыхарка Падбелля ў гміне Бельск-Падляшскі **Еўдакія Нейман** (пра яе неаднойчы пісалася ў „Ніве") — адна з найстарэйшых жанчын у Польшчы. Нарадзілася яна ў Саках у 1880 годзе. Мела сямёра дзяцей, з якіх жыве 69-гадовы сын Іосіф, які апякуецца маці. У юбіляркі 14 унукаў, 30 праўнукаў і 24 прапраўнукі.

**У Легіянове** каля Варшавы адбылася трохдзённая канферэнцыя крымінальных паліцый і міліцый 12 краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У часе спаткання абмяркоўвалі яны вынікі супрацоўніцтва ў галіне барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, між іншым, змаганні з кантрабандамі наркотыкаў, крадзеных аўтамабіляў і радыеактыўных рэчываў.

**Вярхоўны суд у Варшаве** адхіліў рашэнне Ваяводскага суда ў Быдгашчы аб рэгістрацыі арганізацыі „Саюз ветэранаў II сусветнай вайны, былых нямецкіх салдат у Рэчыпаспалітай Польскай, з сядзібай у Быдгашчы".

Набліжаецца пара экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Сярод беластоцкіх вучэльняў вялікай папулярнасцю карыстаецца **Медыцынская акадэмія**. На лекарскі факультэт (дзе ўсяго 140 месц) экзамены здаваць будзе 558 кандыдатаў, на стаматалагічны (72 месцы) — 263, а на фармакалагічны (50) — 91. Найменш кандыдатаў мае аналітыка, бо толькі 51 на 50 месц.

**З'езд зямляцтва** даўняга Элцкага павета адбыўся ў гасцініцы Лега Ін каля Элка. Была гэта першая пасляваенная сустрэча даўніх жыхароў Stade Lyck. На ўрачыстае спатканне прыехалі немцы з Мюнхена, Гамбурга, Кёльна і Гагена, дзе знаходзіцца сядзіба 11-тысячнага зямляцтва. Гаспадаром з'езда было Таварыства нямецкай меншасці ў Элку, якое налічвае 200 членаў.

**Эросфера** — так называецца новы беларускі эратычны часопіс, які неўзабаве паявіцца на чытацкім рынку. Як лічаць некаторыя спецыялісты-сексолагі, гэтае выданне будзе карэнным чынам адрознівацца ад нізкапробнай падобнай літаратуры: зможа прадэманстраваць належныя ўзоры эратычнага фота і ўнесці свой уклад у фарміраванне палавой культуры насельніцтва.

**У Бандарах** на Семяноўскім вадасховішчы арганізуецца водны пастарунак паліцыі, які будзе першай такога тыпу ўстановай на Беласточчыне.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Г. Мароз прапануе сарганізаваць з'езд карэспандэнтаў "Нівы".
- ✓ Варшаўскія капіталісты заклікаюць да актыўнасці беластоцкіх беларусаў.
- ✓ Змаганне за аўтакефалію Праваслаўнай царквы на Беларусі.
- ✓ І зноў выбары.

# ТЭЛЭФАКСАМ З МЕНСКА

### У СПРЭЧКАХ НАРОДЗІЦЦА НАФТАВЫ КАЛЕКТАР?

Лідэры дэмакратычных апазіцыйных рухаў Беларусі, Літвы, Украіны падчас нядаўняй сустрэчы ў Менску дамовіліся правесці ў сталіцы нашай рэспублікі навукова-практычную канферэнцыю на тэму „Шляхі прадухілення паліўна-энергетычнага крызісу".

Як стала вядома ўласнаму карэспандэнту „Нівы", на канферэнцыі будзе абмяркоўвацца магчымасць стварэння балтыйска-чарнаморскага нафтавага калектара.

### ПРАЛЕТАРЫЯТУ ЗНОЎ НЯМА ЧАГО ГУБЛЯЦЬ

Зусім верагодна, што напрыканцы чэрвеня па Беларусі зноў пракоціца хваля забастовак. У прыватнасці, страйкам аднаго з буйнейшых у Менску прадпрыемстваў — завода аўтаматычных ліній — прадставіў кіраўніцтву завода даволі жорсткі эканамічны ультыматум. Асноўныя патрабаванні рабочых: павысіць сярэдні заробак да ўзроўню 6 мінімальных зарплат (прыкладна да 40 тысяч рублёў) і павялічыць кампенсацыйныя выплаты на харчаванне. Калі адміністрацыя прадпрыемства адмовіцца выканаць гэтыя патрабаванні да 21 чэрвеня, рабочыя завода распачнуць забастоўку.

Амаль што аналагічныя патрабаванні вылучылі да ўрада рэспублікі прафсаюзы работнікаў радыёэлектронікі і аўтамабілебудавання. Праўда, іх пагрозы датычаць непасрэдна ўсяго Савета Міністраў Беларусі. У выпадку, калі апошні не выканае ультыматум, прафсаюзы з 25 чэрвеня таксама пачынаюць забастоўку і кампанію па адстаўцы ўрада.

### МЫ ЯПОНІЮ ДАГОНІМ?

Цікавыя звесткі паведамілі нядаўна журналістам супрацоўнікі Часовага аддзялення Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь. Так, згодна з дакладам „Аб развіцці ў 1993 годзе", падрыхтаваным экспертамі ААН, па ўзроўню жыцця Беларусь займае 38 месца ў свеце. А лідзіруе ў гэтым спісе (у ім значыцца 180 краін) Японія, другое месца займае Канада, трэцяе — Нарвегія. Адметна, што сярод рэспублік былога СССР своеасаблівае першынство займае Літва (дваццаць дзевятае месца), потым значыцца Эстонія, Латвія, Расея і Беларусь.

### НЕ ПАБАЯЛІСЯ І РАДЫЯЦЫІ

Чарговы крадзеж радыеактыўных рэчываў здарыўся на адным з прадпрыемстваў Беларусі. Днямі ў Слуцку ўкрадзены дзве прылады з цэзіем-137. Прапажу знайсці пакуль не ўдалося і наўрад ці ўдасца. Па меркаванню спецыялістаў, радыеактыўны тавар, хутчэй за ўсё, ужо вывезены за мяжу.

### ЖАНЧЫНЫ ПАД КОЛАМІ САМАЛЁТАЎ

Другі тыдзень на вайсковым аэрадроме ў Лідзе кругласутачна дзяжураць жонкі мясцовых афіцэраў. Такім спосабам „баявыя сяброўкі" пратэстуюць супраць перадыслакацыі Лідскай авіядывізіі ў Расею. Жанчыны не даюць узняцца ў неба ніводнаму самалёту. Асноўная прычына жаночага бунту: нежаданне выязджаць з гасціннай і ўтульнай Беларусі ў нестабільную Расею, дзе ім не гарантуюць ні добраўпарадкаванага жылля, ні працы.

### ДОБРА МЕЦЬ БАГАТАГА СУРОДЗІЧА

Прыемную навіну атрымалі нядаўна мусульмане, што пастаянна пражываюць у Беларусі. Шэйх Курайшы з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў распарадзіўся выдаць кожнаму інваліду і адзінокай маці мусульманскай нацыянальнасці па 100 долараў ЗША. Нават для сярэднезабяспечанага жыхара Беларусі гэта вялікія грошы (каля 150 тысяч рублёў). Так што падарунак можна лічыць і сапраўды каралеўскім.

### ЛЕЎ САПЕГА ВЯРНУЎСЯ Ў СЛОНІМ

Дэпутаты Слонімскага гарадскога Савета, нарэшце, прынялі рашэнне вярнуць адной з плошчаў горада імя Льва Сапегі. Дарэчы, імя славутага слонімскага старасты гэтая плошча мела здаўна, пакуль у горад не прыйшлі бальшавікі і не перайменавалі прыгожы пляц у гонар пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага.

### ДЗЯРЖАЎНАЯ ГРАНІЦА

Днямі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне аб наданні мяжы з Расеяй, Літвой, Украінай і Латвіяй статуса дзяржаўнай граніцы. Зроблены яшчэ адзін крок да ўмацавання незалежнасці маладой беларускай дзяржавы.

### ТУГА ПА РАДЗІМЕ

Туга па роднай зямельцы, аказваецца, мацнейшая нават за радыяцыйную пагрозу.Напрыклад, у Брагінскі раён Гомельскай вобласці (бадай, адзін з самых забруджаных радыенуклідамі рэгіён Беларусі) вяртаюцца з „чыстых" мясцін рэспублікі шматлікія перасяленцы. Толькі ў вёскі Паселіцкага сельскага савета вярнулася апошнім часам дваццаць дзве сям'і.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## УСПОМНІЎ ДЗЯДЗЬКА БАЛАХОВІЧА

Працяг са стар. 1

другому віноўніку нагайкай задніцу некальکі разоў. Потым ролі мяняліся. Наогул жаўнеры мелі для генерала вялікую пашану. Калі нейкія счапіліся з сабой, хапіла крыкнуць: "Бацька ідзе!" і яны адскоквалі ад сябе, быццам апараныя.

- Я чуў, што генерал быў дасканалым танцорам.

- Гэта праўда, - без моманту хістання адказвае сп. Рыгор. - "Бацьку" часта прасілі на вяселлі, хрэсьбіны. Ён, падвыпіўшы, меў у звычцы ставіць сабе на галаву шклянку з гарэлкай і танцаваць. Не было выпадку, каб шклянка ўпала ці вылілся напітак. Памятаю яшчэ, як генерал ездзіў Трапінкай, заднаго парку ў другі. За канём адно толькі туман пылу ўздымаўся, бо вуліца гэтая не мела тады яшчэ нават бруку. А які конь у яго быў!

- А, менавіта, кажуць, што конь выратаваў генерала ад смерці ў падрыхтаваный на яго засадзе.

- Гэта праўда! Генерал меў ехаць у Гайнаўку, але конь яго ў той дзень знаравіўся. Упіраўся, клаўся на зямлю, быццам прадчуваў небяспеку, пагражаючую яго гаспадару. Замест "Бацькі" паехаў яго брат, Юзік Балаховіч, які таксама жыў у Белавежы, у доме Халімона Вашкевіча на Трапінцы. Вось ён і загінуў на шашы. Было гэта ў 1923 г. Юзіка пахавалі на могільніку ў Белавежы. Пахаванне было ўрачыстае, мнагалюднае, з аркестрам. У апошні час магілу Юзіка аднавілі. Відаць, нехта з сям'і паклапаціўся.

- А чаму і хто хацеў забіць "Бацьку"?

- Я дакладна не ведаю, магу толькі сказаць тое, што людзі на гэтую тэму гаварылі. Абвінавачвалі яны яўрэяў. Быццам раней, калі яшчэ генерал ваяваў, акружыў ён нейкі горад, у якім жыхарамі былі пераважна яўрэі. "Бацька" вызначыў ім выкуп і тэрмін, бо інакш, прыгразіў, горад возьме сілай, а жыхароў выб'е. Яўрэі не паслухаліся і "Бацька" выканаў свой план. Сведкі апавядалі, што кроў плыла вуліцамі. Вось, і яўрэі пастанавілі яму адпомсціць. Але, колькі ў гэтым праўды, хто гэта ведае...

- А што сталася з "балахоўцамі"?

- Шмат іх выехала ў Францыю і іншыя дзяржавы, некаторыя засталіся ў Белавежы ці Гайнаўцы, тут завелі сям'і. Іх саміх у жывых зараз ужо няма. Жывуць толькі іх нашчадкі, якія, мабыць, і не ведаюць пра мінулае іх бацькоў. Іх можна пазнаць па прозвішчах, я б сказаў, чыста рускіх, а прынамсі не характэрных раней нашаму раёну. Мелі "балахоўцы" магчымасць вярнуцца і ў Савецкі Саюз, толькі што іх там чакала пяць гадоў лагераў цяжкай працы. Не ведаю, ці хтосьці пажадаўся вярнуцца на радзіму на такіх умовах...

Развіталіся мы са сп. Рыгорам і пайшлі, кожны ў свой бок. Раптам я пачуў за плячыма ягоны голас:

- Пачакай, я яшчэ адно ўспомніў. Ты калісьці ў газетах пісаў, што пад дубамі ў палацовым парку ў 1920 г. расстралялі 12 бальшавікоў. Гэта было крыху інакш. Іх не расстралялі, а толькі пахавалі - забітых у баю на белавежскай паляне. А было іх усіх 7 чалавек. Мой дзядзька, Канстанцін Байко, у той час солтыс на Стачку, казаў, што на месцы пахавання стаяў, убіты ў зямлю, чырвоны сцяг, а на дрэўцы была прымацаваная дошачка з надпісам: "Спите орлы боевые // Спите вы непробудным сном // Вы заслужили родные // Вечную память // И вечный покой". Мне невядома, ці іх астанкі перанеслі ў іншае месца, ці мо яны надалей ляжаць пад дубамі.

Я ўзрадаваўся гэтай інфармацыяй, за якой "хадзіў" два гады. Усё ж, варта размаўляць са старымі людзьмі.

**ПЁТР БАЙКО**

## ШКАДА ЗУБОЎ

Szanowna Redakcjo!

Przeczytałam w numerze 18 waszego pisma z dnia 2 maja krótki artykuł W. Łuby o naszej służbie zdrowia. Przede wszystkim pan redaktor chce ratować chyba nadszarpnięty autorytet naszego urzędu gminy i wójta. **Nie zgadzam się z tezą, że „gmina ponosi wszystkie koszty utrzymania budynku apteki", czyni to przecież „Cefarm", gmina za to opala budynek zimą i nie pobiera czynszu od „Cefarmu" i nic poza tym** (podkr. red.). Chcę też podkreślić, ze magister farmacji na emeryturze mieszka w tym budynku płacąc co miesiąc 400 tys. zł czynszu gminie. Jeśli chodzi o budynek ośrodka zdrowia, w którym mieszkam i pracuję to zgadzam się, że dach przecieka, bez pomocy gminy remontu nie da się przeprowadzić, wójt, gdy o tym mowa, odpowiada zawsze, że nie ma pieniędzy, a poza tym to nie jego sprawa, tylko ZOZ-u. Brakiem pieniędzy też wykręcił się od kupna węgla dla szkoły w Rogaczach, ale na podwyżki dla siebie i swoim pracownikom pieniądze zawsze muszą być. Jak za dobrych komunistycznych czasów zafundował swoim paniom na 8-go marca po 450 tys. zł! a panom po 150 tys. zł na święto mężczyzn. Drogi w gminie są fatalne, przystanek PKS, który mogłyby pozazdrościć wszystkie gminy jest dewastowany (brak szyb, rozebrany piec) i nikt z władz się tym nie interesuje. Nie prowadzi się w gminie żadnej inwestycji, od roku 1990 wójt nie przedstawił żadnego programu pracy swego zarządu. I dziwi się pan wójt Bortniczuk, a nawet obraża, że opozycja go krytykuje. Na zakończenie: podatek rolny w naszej gminie mimo suszy wzrósł o 100 % w porównaniu z ubiegłym rokiem, a GS „Samopomoc Chłopska", jeśli padnie, to też dzięki gminnym podatkom, ale przecież to nie wójta kłopot.

**LILIANNA GŁADZKA**
**lek. dentysta**

P.S. Nie jestem osobą obcą i nie związaną z Milejczycami, wręcz przeciwnie jestem córką Ananiusza Sawickiego wspomnianego w artykule lekarza internisty i uważam, że mam prawo wypowiadać się w sprawach naszej społeczności, niestety często ma się do mnie o to pretensję. Ojciec mój pracuje 13-lat ja 8-lat.

*(ліст друкуецца згодна з правапісам арыгінала)*

**Ад аўтара:** Напомню, што ў згаданай заметцы пісаў я так: *Каб не дапусціць да ліквідацыі пункта* (аптэчнага — В.Л.), *гміна нясе ўсе кошты ўтрымання будынка, а беластоцкі „Цэфарм" аплачвае толькі працу тэхніка фармацыі і рахункі за ваду і электраэнергію.* Падумаўшы, што можа і сапраўды здарылася мне напісаць няпраўду, падаўся я ў беластоцкі „Цэфарм", каб высветліць справу ў кампетэнтных асоб. У эканамічным і адміністрацыйна-тэхнічным аддзяленнях „Цэфарма" мне паяснілі, што сапраўды, Гмінная ўправа ў Мілейчыцах не налічвае для іх прадпрыемства коштаў эксплуатацыі (гэта ж кошты ўтрымання!) будынка, у якім змяшчаецца аптэчны пункт. „Цэфарм" аплачвае толькі бягучыя кошты (вада, электраэнергія). Сказалі мне там таксама, што ўсю зіму будынак абаграваўся і гміна, хаця мае такое права, не патрабавала ад іх аплаты за ацяпленне.

**Гэта не тэза, гэта — факт!** Калі хтосьці не хоча прызнаваць фактаў, гэта ўжо яго бяда і няшчасце.

Паколькі іншыя, закранутыя ў лісце справы не датычаць зместу заметкі, я імі займацца не буду. Дабаўлю яшчэ толькі, што пры чытанні ліста прыпомніўся мне лозунг намаляваны „спрэем" на сцяне адной беластоцкай крамы, які заклікае: **Людзі, не грызіцеся, шкада зубоў!** Прапаную тады сканфлікаваным бакам прыняць гэты лозунг да сэрца. Хіба што дантысту патрэбны шчарбатыя зубы.

**В. ЛУБА**




## НАШ АГРАНОМ

Чалавек, пра якога будзе мова, адбыў аднагадовы стаж арганома ў Кляшчэлеўскай гміне, а пасля, у 1989 годзе быў перанесены ў Дубіцкую гміну. Называецца Яраслаў Герасімюк, родам ён з Сухаволцаў, жыве ў Кляшчэлях. На працу даязджае штодзённа, карыстаючыся рознымі відамі транспарту: сваім самаходам, аўтобусам, а часам нават і веласіпедам. Такі настаў час, што прыходзіцца быць ашчадным. Калісьці ў нашай гміне працавалі ажно чатыры аграномы, сёння усю работу робіць адзін, наш герой, сп. Я. Герасімюк.

Працы мае ён, як кажуць людзі, па самыя вушы, бо Дубіцкая гміна не такая і малая, а войт Анатоль Паўлоўскі дбае пра дысцыпліну і парадак. Яраслава аднак павучаць не трэба, бо любіць ён працу селяніна — сам ён селянін, толькі вучоны і мае не малую практыку. Часта дае бясплатныя кансультацыі і практычныя парады кожнаму, хто гэтага зажадае. Многа навукі і карысных парад атрымаў і я сам ад гэтага добрага і дбайнага агранома. Сп. Я. Герасімюк прысутны ў гміннай управе штодзённа да 9-ай гадзіны раніцы, пасля гэтага ён едзе па месцах і наведвае сваіх гаспадароў. Сяляне любяць і шануюць свайго агранома-дарадчыка. Вядзе ён у сваім раёне доследы — у паасобных гаспадароў мае спецыяльныя палеткі плошчай мінімум у 1 гектар на пасяўныя культуры і лугі і 0,5 гектара на бульбяныя. На гэтых палетках вырошчваюцца новыя сарты сельскагаспадарчых культур. Хочацца нагадаць, што такія эксперыментальныя палеткі вельмі патрэбныя, аб чым сяляне самі пераканаліся. У Тафілаўцах Я. Герасімюк вядзе двухгадовыя курсы сельскай падрыхтоўкі, на якіх прысутнічае 12 чалавек. Восенню адбудуцца экзамены і курсанты атрымаюць пасведчанне кваліфікаванага земляроба. Калі б былі ахвотныя, то наш агранам арганізаваў бы яшчэ курсы трактарыстаў і камбайнераў. У нас ужо былі падобныя курсы — гэта таксама дзякуючы ахвярнасці менавіта Я. Герасімюка. Многія нашы гаспадары выкапалі сабе басейны і маляўкі рыб брали ў нашага агранома, які займаецца іх вырошчваннем; дзякуючы яму людзі маюць сваю рыбу.

Яраслаў Герасімюк займаецца таксама распаўсюджваннем розных матэрыялаў патрэбных у сельскай гаспадарцы — сельскагаспадарчых часопісаў, сродкаў аховы раслін, кармавых дадаткаў. Можна заказаць у яго нават вапну.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## КАЛІ ХТО ШУКАЕ МОЦНЫХ УРАЖАННЯЎ...

...няхай з Беластока ў Бельск едзе аўтобусам праз Рэпнікі. Асабліва летам, у цудоўнае сонечнае надвор'е.

Пачатак дарогі надзвычай прыемны. Аўтобус гладка коціцца па шырокай паласе асфальту ў цяністым ляску між Дайлідамі і Станіславовам. Пару кіламетрамі далей трапляе на гравійку. І тут пачынаецца...

У аўтобусе робіцца густа-шэра. Пасажыры кідаюцца да вокан, адны зачыняюць іх наспех, каб спыніць прыток новых туманаў пылу, другія — адчыняюць фортачкі, каб не задушыцца ўсярэдзіне.

А аўтобус падскаквае, трасецца на выбоінах, якія сядзяць тут адна на адной, няроўна вуркае, пыхкае чорным дымам і ўпарта сунецца дапераду з хуткасцю 40 кіламетраў у гадзіну.

Але гэта не ўсе выпрабаванні, якія чакаюць адважных падарожнікаў на гэтым маршруце. Можа здарыцца і такое — раздаецца адчайны крык ззаду аўтобуса, пасажыры раптоўна ўцякаюць адтуль наперад. Аказваецца, з падлогі адарвалася даволі вялікая пліта і ўтварылася дзіра, пра якую мог бы выляцець нават дарослы чалавек самавітай паставы.

—Pozabijać nas pan chcesz?! — крычаць напалоханыя пасажыры, кашляючы і плюючы пылам.

— Людзі а....ся вы ад мяне! Я гэтага не выдумаў, каб сюдою ехаць.

Пасля гадзіны гэтай самай кароткай дарогі з Беластока ў Бельск, выходзіш на канцовым прыпынку шэры ад пят да галавы. Мне яшчэ давялося везці гэтым аўтобусам свежы пінжак, прэста з пральні (ачыстка каштавала 60 тысяч), балазе яго натуральны колер — шэры.

**ак**




У „Ніве" н-р 20 прачытаў я допіс Мікалая Панфілюка „Бедная „Белавежа" і падумаў — чаго гэта Мікалай непатрэбна чапляецца да Васіля Петручука. Панфілюк і Петручук жылі побач, у суседніх вёсках. Кніжка В. Петручука „Пожня" вельмі лёгка чытаецца. Я прачытаў яе на беларускай мове, а пасля яшчэ раз на польскай. Аўтар вельмі трапна апісаў усё сваё жыццё, не саромеючыся ані цяжкага свайго лёсу, ані лапцяў, у якіх ён хадзіў у дзяцінстве. Я лічу, што такія кніжкі вельмі патрэбныя маладым „белавежцам", якія прыйдуць у Літаратурнае аб'яднанне. Сваёй гісторыі нельга забываць.

Прачытаў я таксама „List" Мікалая Панфілюка надрукаваны калісьці ў часопісе „Tygodnik Białostocki" (nr 24 z 28-04-1990г.) Мяне вельмі ўсхвалявала тое, што ён адмоўна паставіўся да БГКТ і беларускага музея ў Гайнаўцы. Усё гэта лічыць ён камуністычным, рэвалюцыйным, чырвоным, а гэта ж сапраўдная гісторыя нашых продкаў і яе нельга забываць. Былі, ёсць і будуць добрыя беларусы. Мы памрэм, прыйдуць другія, і такімі яны будуць, якімі мы іх выхаваем, і яны нас ацэняць такімі, якімі мы былі — мяне і цябе, Коля.

Я яшчэ раз сцвярджаю, што Васіль Петручук не лічу камуністам, а добрым сябрам і сур'ёзным працаўніком пры народнай уладзе. М. Панфілюк у тым жа „Лісце" вельмі расхвальвае немцаў, якія, паводле яго, былі добрымі, культурнымі людзьмі. Але каб Гітлер заваяваў увесь свет, цікава ці Панфілюк цяпер быў бы пісьманосцам, ці батраком у баўэра.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

P.S. Што тычыцца выпуску вершаў Дзядзькі Кваса, дык і я за тое, каб падрыхтаваць зборнік. Толькі як яго сабраць? Дзядзька даўно ўжо памёр. Хіба „Ніва" дапаможа сваім архівам?

## ЯН БАКЭ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Ян Бакэ з Нямеччыны добра вядомы шматлікім жыхарам Беласточчыны, асабліва леснікам і ахоўнікам прыроды. Прыязджае ён да нас ужо звыш 20 гадоў фатаграфаваць і фільмаваць нашу прыроду. Свайго часу зняў ён у Белавежскай пушчы прыродазнаўчы фільм.

І, вось, гэты нямецкі аматар прыроды вырашыў выказаць удзячнасць сваім польскім сябрам і падрыхтаваў выстаўку сваіх найлепшых здымкаў, выкананых пераважна ў паўночна-ўсходняй Польшчы. Выстаўка была адкрыта 3 чэрвеня г.г. у памяшканні Прыродазнаўчага музея ў Белавежы. На ёй да 15 ліпеня г.г. можна паглядзець 26 вялікіх, каляровых фатаграфій птушак і больш ых млекакормячых, з зубрам на чале. Падборка здымкаў - Богдана Ярашэвіча (захавальніка фондаў музея) і Анджэя Кэчынскага.

Варта паглядзець.

**ПЁТР БАЙКО**

 

# ІІІ З’ЕЗД БНФ

Амаль два гады не быў я ў Беларусі. Пасля таго, калі ў 1991 г. прыйшлося мне прасядзець перад таможняй у Гродне амаль 30 гадзін, цяжка было рашыцца на чарговую вандроўку за "керзанскую" мяжу. Едучы па запрашэнню Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" на яго ІІІ З’езд, спадзяваўся я, што шмат чаго змянілася ў Беларусі. Упершыню зрэшты ехаў я ў фармальна суверэнную дзяржаву, якая, пасля шматгадовага перыяду каланіялізму, была аб’яўлена вольнай і незалежнай. Без праблемаў удалося перасячы мяжу, хаця мытнікі доўга чыталі польскія газеты і "Ніву", якія мы з Алегам Латышонкам везлі ў Нацыянальную бібліятэку ў Менску і для сяброў Сакрата Яновіча.

Сталіца Беларусі робіць уражанне на тых, якія прыязджаюць туды з такіх невялікіх гарадоў, як Беласток. Менск, які налічвае толькі нямнога больш чым 2 мільёны жыхароў, здаецца быць гігантам. Шырокія з выбоінамі вуліцы, сталінскі, цяжкі стыль будаўніцтва ў цэнтры і лёгкія, высокія, шматпавярховыя блокі на ўскраінах горада. Сталіца, так як і кожны іншы горад на тэрыторыі Беларусі, выглядаў бы зусім інакш, каб нехта на сцены будынкаў паклаў нейкія іншыя, каляровыя тынкі, забараніў ездзіць кашмарным грузавікам, за якімі цягнуцца заўсёды хмары чорнага дыму, нешта памыў, штосьці памаляваў. Такая касметыка патрэбная магазінам, крамам, рэстаранам, гатэлям. Уваходзіць, напрыклад, пакупнік у магазін са спажывецкімі прадуктамі і ўжо сам пах адкідае чалавека. Сцены ў краме ў нейкіх кашмарных колерах, выгляд тавараў не заахвочвае купляць, і нададатак — нейкая ідыятычная сістэма продажу. Спярша трэба ісці ў касу, там сказаць, які тавар і ў якой колькасці хочаш купіць. Заплаціўшы, можна ўрэшце стаць у чаргу за прадуктамі. Такую сістэму маглі прыдумаць толькі ў краіне, якая мае невялікія колькасці прадуктаў і ў якой ніхто не зацікаўлены масавым спажываннем. Пасля некалькіх гадзін пабыўкі ў Менску я дайшоў да вываду, што ў матэрыяльнай сферы жыцця на працягу двух гадоў змяніліся тут толькі цэны і паказалася новая беларуская валюта - "зайчыкі".

Ідучы ў Дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы, дзе адбываўся ІІІ З’езд БНФ, спадзяваўся я, што, пэўна, змяніліся людзі. І сапраўды, відаць прынамсі вонкавыя змены. Валя Тругубовіч (кіраўнік камісіі БНФ па замежных справах) пасля сваіх "voyages" па Згнілым Захадзе памаладзела недзе на гадоў 20, Валеры Буйвал, малады чалавек, які ведае, здаецца, усе еўрапейскія мовы і некалькі іншых, чамусьці пасівеў. Так менш-больш змяніліся і ўсе іншыя знаёмыя і сябры.

ІІІ З’езд БНФ сарганізаваны быў у тым самым будынку, у якім ІІ Усебеларускі кангрэс пачаў працэс змагання за незалежнасць і сваю дзяржаву. Амаль 600 дэлегатаў, натоўп журналістаў, дзесяткі запрошаных гасцей не маглі памясціцца ў зале Тэатра імя Янкі Купалы, але, як сказаў лідэр БНФ Зянон Пазьняк, "у 1917 г. было тут амаль 1990 дэлегатаў. Яны ўжо не стаялі на каленях і таму маглі ўсе памясціцца ў гэтай зале".

Пасля гімна "Магутны Божа" першы голас узяў пісьменнік і вялікі маральны аўтарытэт Беларусі Васіль Быкаў. Сказаў ён, што пару гадоў таму беларуская нацыя дайшла амаль да стану ліквідацыі свае тоеснасці. Імперыя адабрала ўсё: зямлю, мову і душу народа. "Толькі Бог не дапусціў да нашай цалкавітай смерці" - гаварыў Васіль Быкаў.

Галоўнае выступленне З. Пазьняка пачалося з напамінку таго часу, калі нараджалася апазіцыя ў Беларусі. Яна выступіла тады з бел-чырвона-белым сцягам і "Пагоняй" як нацыянальнымі сімваламі. У тэлебачанні называлі тады гэтыя сімвалы фашысцкімі, а за значок "Пагоня", прышпілены да вопраткі, цягнулі ў суд. Цяпер, дзякуючы намаганням БНФ, бел-чырвона-белы сцяг вісіць над будынкам урада і парламента. Далей лідэр Фронту прадставіў палітычную сітуацыю ў Беларусі. Палітыка камуністычнай наменклатуры - сказаў Пазьняк - давяла народ да такой хваробы, пры якой нявольніцтва лічыцца згодным з натурай, ненармальнае лічыцца нармальным. Пануючая партакратыя мае адну мэту - утрымацца пры ўладзе, каб бяскарна раскрадаць нацыянальную маёмасць. Яна становіцца група й капіталістаў і ўласнікаў. Трымаючы ў сваіх руках заканадаўчыя і выканаўчыя органы, яна не дапускае да ніякіх зменаў. За гарантыю ўлады камуністы гатовы ў любы момант аддаць айчыну пад маскоўскі пратэктарат. Пазьняк заявіў, што ніякага супрацоўніцтва з камуністамі не будзе, "бо гэта з маральнага пункту гледжання абазначала б тое самае, што супрацоўніцтва з бандытамі і злачынцамі".

Будучыню Еўропы Пазьняк бачыць як "Еўропу айчынаў". Моцна гэта супадае з лозунгамі ЗХНу, з такой, аднак, розніцай, што БНФ - гэта арганізацыя, якую складаюць праваслаўныя, каталікі, атэісты, баптысты і вернікі іншых канфесіяў. Падтрымоўваюць Фронт усе арганізацыі нацыянальных меншасцяў, апрача расейскай. Цяжка сабе ўявіць меншасць у Польшчы, якая падтрымоўвала б наш ЗХН.

Пазьняк у сваёй прамове вярнуўся да свае канцэпцыі Балта-чарнаморскай супольнасці (БЧС), якая яднала б Беларусь, Украіну, Літву і Латвію. Аказалася пасля, што гэтай ідэяй пачынаюць цікавіцца і ўспомненыя суседзі Беларусі. Прысутны на з’ездзе былы прэзідэнт Літвы Ландсбергіс, які раней рашуча адкідаў прапанову Пазьняка, пачаў у сваім выступленні гаварыць, што яна вельмі цікавая і варта над ёю задумацца. Лідэр украінскай апазіцыі, галоўны канкурэнт Л. Краўчука ў прэзідэнцкіх выбарах, Чарновіл, назваў план БЧС найбольш аптымальным варыянтам для ўсіх еўрапейскіх краінаў, якія паўсталі пасля распаду СССР. Паводле Чарновіла Беларусь павінна быць галоўным партнёрам Украіны, тым больш, што лёс абодвух народаў падобны і нішто іх не дзеліць - ні гісторыя, ні сённяшні дзень.

На З’ездзе выступалі таксама лідэры Саюза палякаў Беларусі - Т. Гавін і Б. Фустачэнка. Гаварылі прыгожа на беларускай мове. "Мы, палякі, - сказала Барбара Фустачэнка, - маем права і абавязак быць лаяльнымі да беларускага народа і нашай супольнай дзяржавы - Беларусі. Не мусім быць лаяльнымі ў адносінах да ўрада, які прадстаўляе невядома каго. Адзінай дзяржаўнай мовай на Беларусі павінна быць беларуская мова, усе іншыя - гэта мовы нацыянальных меншасцяў".

Удзельнікаў З’езда прывітаў ад Беларускага дэмакратычнага аб’яднання і іншых арганізацыяў, аб’яднаных у Беларускім саюзе ў Рэчыпаспалітай, старшыня БДА Алег Латышонак. Яго кароткае выступленне было вясёлай рэфлексіяй над нашай беларускай тоеснасцю і выклікала бурлівыя апладысменты дэлегатаў.

На другі дзень З’езд выбіраў Сойм БНФу, старшыню арганізацыі і яго намеснікаў. Лідэрам застаўся Зянон Пазьняк, а заступаць яго будуць: Валянцін Голубеў, Вінцук Вячорка, Юры Хадыка, Уладзімір Заблоцкі і Лявон Баршчэўскі. Падчас дыскусіі над зменамі ў праграме Фронту дайшло да падзелу сярод дэлегатаў - ці ўпісаць у статутную дзейнасць ахову хрысціянскіх вартасцей, ці яе не ўпісваць? Галасаванне справы таксама не вырашыла. 180 дэлегатаў было за, 130 - супраць, астатнія не галасавалі ўвогуле. Пакуль што, праблему пакінулі на вырашэнне Сойму.

Ці зможа БНФ пераняць уладу на Беларусі? У будучыні - напэўна так, бо падтрымоўваюць яго маладыя людзі, але ў найбліжэйшых выбарах праўдападобна вялікіх поспехаў ён не даб’ецца, бо ненавідзяць яго ветэраны і пенсіянеры, якія найбольш дысцыплінавана пойдуць на выбары. Старэйшыя людзі з сантыментамі ўспамінаюць брэжнеўскі "дабрабыт" і той час, калі што пару гадоў давалі ім нейкі медаль, запрашалі на акадэміі, словам, шанавалі "савецкага чалавека". Фронт у іх вачах - сіла, якая збурыла "адзіны справядлівы лад", прывяла да развалу Савецкага Саюза. Сродкі масавай інфармацыі, якія астаюцца ў руках камуністаў, падтрымоўваюць усе міфы наконт БНФу.

Прыглядаючыся менскім беларусам, я дайшоў да вываду, што маюць яны такія самыя псіхалагічныя праблемы, як і мы на Беласточчыне.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ПАСОЛЬСКІЯ ВІЗІТЫ



Неспадзявана і нечакана субота 22 мая 1993 года прайшла ў Гданьску пад знакам беларускіх сустрэч. Крыху хваляваліся мы з нагоды прыезду ў наш горад пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзіміра Сянько. Тым больш, што час прызначаны на сустрэчу быў незалежны ад нас і яе у апошняй хвіліне быў перасунуты на гадзіну раней.

У такіх умовах прышлося нам прывітаць спадара пасла ў суправаджэнні генеральнага консула РБ у Гданьску Аляксея Шахновіча і прадстаўніка гданьскага ваяводы Кшыштафа Фігеля, які сачыў за часам усіх сустрэчаў. Людзі памаленьку збіраліся і са спазненнем, але раней чым было дамоўлена, удалося пачаць сустрэчу. Пасля прывітання шаноўнага госця Анна Іванюк прадставіла становішча гданьскіх беларусаў. З прыемнасцю ўсе прысутныя выслухалі словы спадара Уладзіміра Сянько (верхні здымак). На жаль, не асталося часу на размову. Не ведаю, якія ўражанні асталіся ў нашага шаноўнага госця, але нашыя людзі былі крыху расчараваныя сустрэчай. Усе спадзяваліся, што ўрэшце будзе нагода, каб пагутарыць як беларус з беларусам. А тут — на табе! Адно афіцыйныя прамовы з аднаго і другога боку, і канец сустрэчы: госцю трэба некуды ехаць. Калі міждзяржаўныя справы важнейшыя (а яны ж сапраўды важныя), тады сустрэча з намі павінна адбыцца ў іншы час, каб у нашым асяроддзі таксама асталося пачуццё задаволенасці, што ўсё было, як трэба.

На шчасце а 11.30 у нашым клубе паявіўся Сакрат Яновіч (пасол беларускай культуры, як назваў пісьменніка „Dziennik Bałtycki”) і карыстаючыся нагодай (Сакрат прыехаў на запрашэнне спадара Мацея Лісіцкага на сустрэчу з каталіцкай моладдзю) мы мелі магчымасць спакойна пагутарыць і нават выслухаць некалькіх апавяданняў, прачытаных пісьменнікам (здымак ніжэй). Хто хацеў, мог купіць прывезеныя Сакратам кнігі — навейшыя выданні „Белавежы”.

А 17-ай гадзіне ў айцоў дамініканцаў на „Горцы” пры касцёле Св. Мікалая ў Гданьску пачалася сустрэча з Сакратам Яновічам. Сустрэчу адкрыў афіцыйным выступленнем пасол РБ Уладзімір Сянько, прадставіўшы таксама моладзі асобу Сакрата Яновіча. Спадар пасол не змог астацца на сустрэчы, бо чакалі яго яшчэ выступленні на радыё і тэлебачанні.

А Сакрат распавядаў пра польска-беларускія (ці беларуска-польскія) адносіны ў мінулым. Моладзь слухала з зацікаўленнем. Многае пачула ўпершыню. Сустрэча з Сакратам Яновічам складалася з двух частак. Другая — адбылася ў нядзелю, пасля багаслужбы. Размова цягнулася аж да абеду. Што ж, яшчэ не так многа ведаў даходзіць да палякаў пра беларускую гісторыю, а ў дадатак у беларускай інтэрпрэтацыі. А важнае гэта асабліва таму, што нагода была не абы-якая — моладзь едзе летам на пілігрымку з Наваградка ў Вільню. Арганізатар, Мацей Лісіцкі, пастараўся ўзбагаціць пілігрымаў у веды пра краіну, у якую яны паедуць і сарганізаваў ім цыкл гутарак аб Беларусі. Апрача Сакрата Яновіча з моладдзю сустрэўся айцец Юзэф Пуцілоўскі, які гаварыў на тэму: „Беларус — каталік? Беларус — праваслаўны?” (11.05. і 18.05). 30 мая адбылося спатканне з Адамам Глябовічам на тэму каталіцкага касцёла на Беларусі.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**





 

 



# СВЯТЫ АНУФРЫЙ ВЯЛІКІ

У той дзень, калі выйдзе гэты нумар „Нівы”, многія нашы чытачы будуць у манастыры Св. Ануфрыя ў Яблачыне, дзе 25 чэрвеня (12 чэрвеня паводле старога стылю) адзначаецца свята Прападобнага Ануфрыя Вялікага.

Быў ён адным з самых вялікіх аскетаў на Усходзе. Пачаткова прабываў у манастыры Эрыці ў Егіпце, потым аднак падаўся ў пустыню, дзе правёў каля 60 гадоў як пустэльнік. Харчаваўся, між іншым, пустыннай травой і расой, якою праганяў смагу. Праз нейкі час Бог паслаў Анёла, які прыносіў яму хлеб і ваду, а пасля 30 гадоў пры яго пячоры вырасла фінікавая пальма і стала біць крыніца. Ануфрый усё жыццё прысвяціў малітвам і постам, змагаўся са спёкай дня і холадам ночы, перанёс таксама мноства іншых цяжкасцей. Пад канец жыцця Святога Ануфрыя наведаў Св. Пафнуцій, якому Прападобны расказаў аб сваім жыцці. На другі дзень Св. Ануфрый паблаславіў свайго госця, потым стаў маліцца і ў тым часе аддаў сваю душу Богу.

Гісторыя манастыра ў Яблачыне, мабыць, сягае XV стагоддзя, хаця першы, зусім верагодны дакумент, у якім называецца манастыр (дэкрэт караля Жыгімонта I) датуецца 1522 годам. Мінулае манастыра ў Яблачыне было бурлівае, а часта трагічнае. Нягледзячы на ўсе складанасці, манастыр ніколі не прыступіў да уніі і заўсёды верна стаяў за Праваслаўе.

Некалькі гадоў таму невядомыя злачынцы ўкралі з галоўнага манастырскага храма дзве найбольш каштоўныя іконы — Прападобнага Ануфрыя (XII—XIII ст.) і Божай Маці Яблачынскай (праўдападобна з таго ж перыяду). У манастыры зараз прабывае некалькі манахаў.

С. Н.




## КЛІЧ

Не гары, Пружана, не гары,
Не дымі ты, неба.
Лепш на гробах ты старых
Знічаў дай як трэба.

Не тапісь, Пружана, не тапісь,
Не хадзі над рэчкай.
Лепш на вышынях маліcь
З запаленай свечкай.

Не кляні, Пружана, не кляні
Ворагаў няшчасных.
Лепш у храм Ты загляні
Да ікон сучасных.

Не сумуй, Пружана, не сумуй
Праз Мадонны гора.
Лепш вялікі звон збудуй
Для народаў мора.

С.К.М.

# НА НОВЫМ МОГІЛЬНІКУ Ў БЕЛАСТОКУ

5 чэрвеня г.г., таксама як год таму, на новым могільніку ў Беластоку (каля „Элеватараў” у Старасельцах) служылася ўрачыстая Літургія. У гэты дзень (23 мая паводле старога стылю) царква ўшаноўвае памяць Святой Ефрасінні Полацкай. Прападобная Ефрасіння з'яўляецца заступніцай новай царквы, якая будуецца на могільніку. Гэты дзень — чарговая асаблівая дата ў кароткай гісторыі царквы і могільніка: Літургія служылася ўпершыню ўнутры храма і першы раз новабудоўля была асвячана. У багаслужбе, якую служыў айцец протапрасвіцер Серафім Жалезняковіч разам са святарамі прыхода Святога Мікалая, прысутнічалі вернікі з іншых прыходаў Беластока. Спяваў хор пад кіраўніцтвам Аляксандра Лысынкевіча (трэба ў гэтым месцы адзначыць, што царква вылучаецца добрай акустыкай).

У пропаведзі а. Рыгор Місіюк гаварыў аб жыцці Святой Ефрасінні, якой прыкладам можна карыстацца сёння і ад якой можна многаму навучыцца. Ефрасіння з малады́х гадоў адкінула ўсялякія даброты гэтага свету, якія забяспечвала ёй княжацкае паходжанне, і падалася ў манастыр. Каля 1125 года заснавала яна Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі жаночы манастыр. Менавіта ў ім знаходзілася, пабудаваная Ефрасінняй, царква Спаса з двума келлямі ў выглядзе грэчаскага крыжа, памерамі 1 м х 2 м. У гэтых келлях займаліся для Божай славы і Святой Праваслаўнай Царквы Святая Ефрасіння і яе сястра Еўдакія. Менавіта там, а не ў прасторных, выгадных пакоях, Ігуменя Ефрасіння праводзіла час на малітвах і перапісванні святых кніг.

Пасля Літургіі былі адслужаны благадарственныя малебны за ўсіх, хто пасадзейнічаў узнікненню гэтай царквы, а потым паніхіда. У гэтым годзе дзень ушанавання Прападобнай Ефрасінні выпаў менавіта на *Троицкую родительскую субботу* — адзін з асаблівых дзён *поминовения усопших православных христиан*.

Будова царквы набліжаецца да канца. Асталося яшчэ толькі афармленне інтэр'ера і трэба спадзявацца, што восенню гэтага года адбудзецца асвячэнне храма. Могільнік, на якім знаходзіцца царква, мае таксама сваю гісторыю. Старанні прыдбаць месца пад новыя магілкі, якія вяліся гадамі, закончыліся паспяхова толькі ў 1990 годзе. Могільнік плошчай у 9,95 га дзесяцігоддзямі будзе служыць праваслаўным Беластока. Цяпер на могільніку знаходзіцца звыш дзесяці магілак. Непадалёк іх растуць маладыя зялёна-белыя бярозкі. Калі ўзяць пад увагу суседства лесу, уздоўж якога праходзіць мяжа могілак, спевы птушак і спакой, які тут пануе, дык трэба сцвердзіць, што новы могільнік сапраўды знаходзіцца ў прыгожым месцы.

С. Н.

### ЗАЎВАГІ ДА АРТЫКУЛА "І Усяленскі Сабор - Нікея, 325 г." ("Ніва", № 20)

На гэтым Саборы ўпершыню быў уведзены "Сімвал Веры", які канчаткова зацвердзіў Канстанцінопальскі Сабор. Хрысціяне да гэтай пары давалі абяцанне веравызнання пры хрышчэнні, дзе пацвярджалі сваю веру ў Святую Тройцу і ў Ісуса Хрыста - іх Збавіцеля. "Сімвал Веры" ўводзіў новыя элементы абстрактнай і спекуляцыйнай натуры, якія даводзілі да спрэчак і дыскусій паміж тэолагамі і веруючымі хрысціянамі. Увядзенне слова "аднаісны", якое зраўноўвала Айца і Сына, на Саборы не было прынята прэсвітарам Арыем і яшчэ адным епіскапам. Іх супраціўленне стварала сумненне, ці мае Сабор натхненне Святога Духа. Імператар Канстанцін Вялікі загадаў выгнаць з Сабора гэтых двух, а іншыя аднадушна падпісалі ўсе пастановы імем Святога Духа. Стварыла гэта небяспечны прэцэдэнт аказвання націску і запалохвання епіскапаў і веруючых хрысціян. Гэта давяло да моцных сварак пасля Сабора, якія цягнуліся больш чым паўвека, а Захад адчуў іх праз два наступныя стагоддзі. Хрысціяне, якія раней не слухаліся імператараў, цяпер звярталіся да свецкай улады за дапамогай, каб ліквідаваць тых хрысціян ці епіскапаў, якія не прызнавалі таго ці іншага погляду на справы веры. Свяшчэннаслужыцелі, якія раней мелі маральны аўтарытэт, цяпер сталі імператарскімі чыноўнікамі. Пасля смерці імператара Канстанціна Вялікага арыянізм пашыраўся, а некаторыя імператары сталі яго прыхільнікамі. І толькі другі Канстанцінопальскі Сабор у 381 г. нанёс моцны ўдар па арыянізму і прывёў да яго знішчэння.

А цяпер некалькі слоў аб паходжанні Духа Святога ў "Сімвале Веры". На Нікейскім Саборы была прынята, згодна з Евангеллем ад Іаана (15, 26), што Дух Святы паходзіць ад Айца, як сказаў сам Хрыстос. Аднак каля 447 г. у Іспаніі знайшліся нейкія манахі, якія пачалі прапаведаваць, што Дух Святы паходзіць ад Айца і Сына, і яны дадалі да тэксту "Сімвала Веры" лацінскае слова "філіоквэ" (і Сына). Папа рымскі Леў III забараніў ім ужываць слова "і Сына". Ён нават выпісаў на срэбных таблічках "Сімвал Веры", дзе не было слова "і Сына". Але гэтае не спадабалася каралю франкаў Карлу Вялікаму, бо ён планаваў экспансію на Візантыю і хацеў абвінаваціць яе ў схізме. Па яго загаду вызначаны ім сінод епіскапаў у Франкфурце ў 796 г. дадаў да "Сімвала Веры" слова "і Сына" і выкляў іншы тэкст. Пазней папа Ян VIII (872-882) таксама выступаў супраць увядзення слова "філіоквэ", але баяўся востра выступаць супраць дынастыі Каралінгаў і прынятаму ўжо на Захадзе гэтаму дадатку. Тэкст са словам "і Сына" ўведзены быў папам Венядзіктам VIII (1012-1024). Усходняя Царква прызнала гэтае слова за ерась, што давяло да схізмы і раздзялення цэркваў.

ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ

# БЕЛАРУСКІЯ СВЯТЫЯ

Кожны народ слушна ганарыцца іменамі вялікіх патрыётаў, мастакоў і вучоных. Сярод тых, што жылі і прысвяцілі сваё жыццё дабру народа і Бацькаўшчыне былі таксама беларускія святыя. Яны жылі і дзейнічалі ў розныя эпохі нашай гісторыі, адлюстроўваючы і ўвасабляючы ўсе складанасці жыцця народа. У свой час святыя пакінулі бачны след на духоўным, культурным і нават палітычным абліччы Беларусі. Народ без уздзеяння і прымусу сам вылучыў і ўшанаваў імёны тых, якіх жыццё і заслугі найвышэй цаніў. Сваім сумленнем, самазабыўным жыццём яны былі і дагэтуль застаюцца маральным аўтарытэтам для суайчыннікаў і нашчадкаў. Яны — сапраўдныя светачы нашай слаўнай мінуўшчыны, „соль зямлі беларускай”, святло і сумленне.

Мы цяпер не ў стане ўзнавіць імёны ўсіх святых; іх значна болей чымсьці ў афіцыйных спісках кананізаваных святых. З ліку тых, што жылі і памерлі як святыя, Царква афіцыйна прызнала толькі выбраных. Гэтак жа як не ўсім героям ставяць помнікі, так Царква вылучыла імёны толькі некаторых, плён жыцця іх узвышаючы да рангі сімвалаў. Не па рэлігійных прычынах у афіцыйны спісак 14-ці беларускіх святых не ўвайшлі таксама віленскія Пакутнікі: Антон, Іаан і Яўстафій. Паколькі зараз да Беларусі не належыць і Смаленск, баючыся ўгнявіць бязбожныя ўлады, і смаленскіх святых не ўключылі ў афіцыйны спісак. Тыпова кан'юнктурным з'яўляецца замоўчванне імя замучанага бальшавікамі архіепіскапа Мелхіседэка (сапраўднае прозвішча — Міхаіл Паеўскі). Сын святара са Шчытнік у Берасцейскім павеце, у сане архімандрыта быў ігуменам Бяльніцкага манастыра. Хіратанізаваны ў сан епіскапа быў прызначаны на Таўрычаскую епархію. Пасля выезду епіскапа Юрыя Ярашэвіча ў Варшаву, Мелхіседэк быў прызначаны на Менскую епархію. 22-га ліпеня 1922-га года склікаў ён у Менску сабор, на якім абвешчана была Беларуская, незалежная ад Масквы, Мітраполія з чатырма епархіямі. За акт абвяшчэння незалежнай Беларускай Мітраполіі і за рэлігійную дзейнасць, мітрапаліт Мелхіседэк, разам з усёй Царкоўнай Радай, быў арыштаваны бальшавікамі і вывезены ў Краснаярск. Напрыканцы 30-га года быў ён выкліканы ў Маскву, дзе, як пакутнік, закончыў сваё плённае жыццё. Гэткі сам лёс спаткаў і іншых трох беларускіх епіскапаў, і шматлікіх святароў...

На шчасце, падлізніцкае замоўчванне царкоўнай іерархіяй бальшавіцкага варварства не мяняе факта, што народ памятае і шануе такіх людзей, а народ заўсёды быў галоўным і першым суддзёю. Народнае шанаванне і нішто іншае было заўсёды падставай для кананізацыі.

Немагчыма паасобна ахарактарызаваць тут усіх святых, хаця іхныя жыцці-ўпісы цікавыя і павучальныя. Не хачу адбіраць хлеб гісторыкам, якія ўжо шмат знайшлі, даследавалі і напісалі, ажыўляючы і падмацоўваючы традыцыйнае шанаванне святых. Адзначу толькі, што Ефрасіння Полацкая слушна шануецца, як ахоўніца і вялікая асветніца беларускага народа. Хто ведае, як развівалася б сучасная літаратура без падмурка творчасці „залатавустага” Кірылы Тураўскага. Сімяон Полацкі мужна выступіў у абароне пакрыўджаных супраць самавольства князя. Меркурый Смаленскі ўвасобіў мужнасць у абароне Радзімы. Апанас Берасцейскі пакутніцкай смерцю пацвердзіў бескампраміснасць веры. Гаўрыіл Заблудаўскі прадстаўляе анельскую нявіннасць дзіцяці, якая павінна быць хрысціянскай нормай.

Неабходна тут адзначыць і спецыфічны характар беларускай святасці, якая адпавядае і характару народа. Незалежна ад таго, ці гутарка ідзе пра князёў, свяшчэляў, пакутнікаў ці прападобных, іхняя святасць — дзейная, накіраваная на агульнае, грамадскае аскетніцтва, пакліканае для асабістага ўдасканалення — у нашых святых спалучалася з грамадскай службай. Беларускія святыя не абмяжоўваліся ізаляцыяй у манастырскіх келлях, але з ахвотай неслі ў народ свае веды, высокую мараль і збаўчы прыклад. Да гэтага заклікае Евангелле ў словах: „Гэтак няхай свеціць святло вашае перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і ўслаўлі Айца вашага, Які ў Нябёсах”.

У трэцюю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы звяртаемся да беларускіх святых не толькі як да нябесных ахоўнікаў. Яны заслугоўваюць пашаны і любові за свой патрыятызм, служэнне народу і дабратворнае ўздзеянне на яго. Іхняя праца, малітва і навука паспрыялі сфармаванню душы нацыі. У наш нялёгкі час, калі паволі адраджаецца нацыянальнае пачуццё народа, абакрадзенага з духоўных каштоўнасцяў, святыя беларускай зямлі здольныя абудзіць пачуццё гонару за сваю мінуўшчыну, за свой сапраўдны радавод.

а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК



 

## ЧАРГОВАЯ КНІЖКА А. РЫГОРА САСНЫ

Аўтара некалькіх тамоў „Бібліяграфіі праваслаўных парафій на Беласточчыне" а. Р. Сасну прадстаўляць нікому не трэба. Яго навуковыя доследы выклікаюць захапленне і пашану адных і недарэчную крытыку другіх. Ніхто толькі не ведае, колькі гадзін у суткі працуе айцец Рыгор. Некаторыя падазраюць нават, што ўвогуле не спіць. Сапраўды трэба надзвычайнай самадысцыплінаванасці, каб пагадзіць абавязкі настаяцеля вясковага прыхода і гісторыка-даследчыка.

Чарговая „Бібліяграфія..."*/ а. Рыгора Сасны зміяшчае інфармацыю пра ўсе кніжныя выданні, артыкулы ў часопісах і занатоўкі ў газетах, якія датычаць праваслаўя на Беласточчыне і паказаліся ў друку ў апошніх гадах. Аўтар змяшчае гэтым разам інфармацыю пра матэрыялы аўтараў, якія рашуча адмоўна выказваліся на тэму праваслаўя на Беласточчыне. Ёсць сярод іх і ўсе артыкулы, якія былі надрукаваныя ў беластоцкіх газетах і часопісах.

„Бібліяграфія" а. Рыгора Сасны патрэбна не толькі даследчыкам гісторыі праваслаўя, яна таксама паказвае ўсе крыніцы неабходныя для вывучэння нацыянальных, сацыяльных і культурных праблемаў Беласточчыны.

Кніжку будзе можна купіць таксама ў рэдакцыі „Нівы".

**Я. М.**

---

*/ ks. Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie, część alfabetyczna, suplement II, Ryboły 1993.

# ЯК ГЭТА ЗРАБІЦЬ У БЕЛАСТОКУ?

Беларуская мова на Беласточчыне навучаецца ў бліжка пяцідзесяцці школах. Пра лік гэты вырашае перад усім вёска — у гарадах (Бельск, Гайнаўка) школ такіх усяго некалькі, хаця бельская Пачатковая школа н-р 3 гуртуе адну трэцюю ўсяе моладзі, якая вучыцца гаварыць і пісаць на роднай мове. Навучанне беларускай мовы ў Гайнаўцы, калі меркаваць па колькасці вучняў суадносенай да беларускага патэнцыялу горада — пры смерці ўжо. У Беластоку ж, дзе, як мяркуецца, жыве палова ўсіх беларусаў у Польшчы — навучання такога наогул няма. Сталіца рэгіёна засмоктвае ў сябе ўсё, што варушыцца яшчэ ў наваколных вёсках і мястэчках — людзі пасля пераезду ў Беласток, як прынцып, перастаюць думаць: хто яны і адкуль. Перастаюць таксама рупіцца пра ўзгадаванне сваіх дзяцей на беларусаў, хаця асветныя ўлады стварылі ў апошніх гадах спрыяючыя ўмовы.

Віктар Стахвюк, былы сакратар Беларускага грамадска-культурнага таварыства, заснаваў у 1991 годзе сваю прыватную школку, у якой беластоцкія дзеці вывучаюць беларускую мову. На пачатку, гаворыць, запісалася ў яе 5 дзетак. Цяпер школа налічвае ўжо 18 вучняў, у гэтым ліку тых 5, якія запісаліся на пачатку. Калісьці, кажа Віктар Стахвюк, група беластоцкіх беларусаў, у іх ліку і дзеячы Таварыства, спрабавала арганізаваць беларускі клас — запісалася тады 8 дзетак. Нічога аднак з гэтай ініцыятывы не выйшла, бо, праўдападобна, гэтая невялікая колькасць вучняў ставіла іх самых у нецікавае псіхалагічнае становішча. Клімат гэты аднак палягчэў, калі ў школы ўвялі навучанне рэлігіі. Факт гэты сам па сабе падзяліў вучняў — гэта несумненна той фактар, які і павінен паспрыяць узнікненню беларускага школьніцтва ў Беластоку.

Навучанне беларускай мовы няцяжка ўвесці там, дзе ёсць традыцыя навучання гэтага прадмета. У Беластоку, паводле В. Стахвюка, справа маецца іначай — тут трэба пачаць са стварэння такой менавіта традыцыі. Можна гэта рабіць у рамках нядзельнай школкі — у будынку Таварыства, у прыватнай кватэры, пры прыходзе. Іншы варыянт прабівання беларускай мовы ў Беластоку — гэта адкрыванне беларускіх класаў у звычайных школах. Тут патрэбна аднак заява волі бацькоў, а далей ужо кіраўніцтва школы абавязана навучанне такое забяспечыць.

Беласток, адзначае Віктар Стахвюк, можа мець 20 месц у вучэльнях Беларусі — варта было б накіроўваць туды тых, якія вывучалі ў школе беларускую мову.

У апошнім часе нешта ў Беластоку зрушылася з месца. Бацькі дзяцей з Пачатковай школы н-р 9 у Беластоку заявілі жаданне адчыніць у школе навучанне беларускай мовы. Тэкст іх заявы друкаваўся ў „Ніве". У кожнай краіне, пішуць яны ў сваёй заяве, меншасці арганізуюць навучанне сваёй роднай мовы — робяць гэта, напрыклад, палякі ў Беларусі, Літве. Чаму ж нам не навучыць сваіх дзяцей гаварыць і пісаць на сваёй мове? Тым больш, што будуць яны мець магчымасць працягваць сваю адукацыю ў вучэльнях Беларусі.

Чаму ж не?!

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## ПАЛЯКІ Ў ГРОДНЕ

У канцы красавіка пабываў я з вучнямі з Барчэва на Гродзеншчыне. Выглядае яна па-свойску: палі заараны, дзе-нідзе, як і ў нас, аблогі, на дамах — прыгожыя аканіцы, буслы кружацца ў паветры або стаяць на гнёздах. Самое Гродна, у якім яшчэ ёсць помнік Леніну, гэта прыгожы горад. Наведалі мы музей, што знаходзіцца ў гродзенскім замку. Праваднічка, калі даведалася, што мы з Польшчы, паказала нам усе экспанаты. Ёсць там рэчы, якімі карысталіся нашыя дзяды: драўляныя лыжкі, міскі, жорны, ступа. Усё такое было ў майго бацькі. Ёсць таксама гістарычныя дакументы, звязаныя з Люблінскай уніяй, панаваннем Стэфана Баторыя, Чатырохгадовым сеймам і міжваенным санацыйным дваццацігоддзем. Кароль Стэфан Баторый асабліва любіў Гродна; пабудаваў тут палац і хацеў яшчэ пабудаваць езуіцкую калегію.

Цяпер у Гродне пражывае каля сямі тысяч палякаў. Новыя законы ствараюць шанц на адраджэнне польскай асветы. Два гады ўжо існуюць у гродзенскіх школах польскія класы. Вучні карыстаюцца падручнікамі, друкаванымі ў Польшчы і Літве, а неўзабаве атрымаюць кнігі, выдадзеныя ў Беларусі. У Гродне фірма з Супраслі будуе „Дом паляка". Старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэўш Гавін сказаў, што беларуская ўлады прыхільна ставяцца да патрэб мясцовых палякаў. Намерваюцца яны дафінансаваць дзейнасць Цэнтра польскай культуры ў Гродне, рэстаўрацыю Вітаўтавай фары, польскія выданні.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

<u>На спартыўнай ніве</u>

## РЭКОРДЫ ШКОЛЬНАЙ АЛІМПІЯДЫ

5 чэрвеня бягучага года адбылася XII Беластоцкая алімпіяда моладзі падставовых школ. Удзельнічала ў ёй 400 дзяўчат і юнакоў. Юныя спартсмены ўстанавілі пяць рэкордаў, між іншым па бегу на кароткія дыстанцыі (рэкорд спрынтэраў) ды кіданні ядром. Найлепшых вынікаў у згаданых відах спорту дабіліся вучні з беластоцкіх школ: ПШ н-р 24, ПШ н-р 5 і ПШ н-р 13.

У спаборніцтвах сярод дзяўчат вылучыліся: **Барбара Гомляля** з Падставовай школы н-р 5 у Гайнацы (яна па бегу на 100-метровай дыстанцыі мела добры вынік — 11,91 сек.), **Юліта Панфіль** з ПШ н-р 9 у Беластоку ў скачках у вышыню мела рэзультат 1,45 м, **Крыстына Ярмацэвіч** з Супраслі кінула дыск на адлегласць 27,26 м і **Моніка Бартніцкая** з ПШ н-р 21 у Беластоку кінула кап'ё на адлегласць 29,50 м.

Сярод юнакоў добрых і задавальняючых вынікаў дабіліся, між іншым **Войцех Шчыгел** з ПШ н-р 2 у Васількове — 11,59 сек. па бегу на 100 метраў, **Марыюш Вярцінскі** з ПШ н-р 2 у Чорнай Беластоцкай скочыў 1,70 м у вышыню, а **Рыгор Малец** з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім кінуў кап'ё на адлегласць 46,90 м.

У школьным спаборніцтве дзяўчат перамаглі спартсменкі з **Супраслі** — заваявалі яны першае месца (рыхтавала іх да спаборніцтваў вопытная настаўніца фізкультуры **Францішка Война**, другое месца занялі школьніцы з **Васількова**, трэцяе — з **Чорнай Беластоцкай**, чацвёртае — з **бельскай „тройкі"** і пятае — з **Чаромхі**.

Сярод юнакоў ужо пяты раз па чарзе найлепшымі былі вучні **Падставовай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім**, з якімі заняткі па фізкультуры вядзе настаўнік з немалым вопытам **Уладзімір Баравік**. Віншуем іх з поспехам!

**(яц)**

## КАХАННЕ СТАРОЙ ТЭКЛІ

- Ты, маці, на старыя гады здурэла, ці што? - крычалі сын ды нявестка на васьмідзесяцігадовую Тэклю. - Шлюбам захацела пабрацца, ды яшчэ з католікам! Шлюб будзеш браць у касцёле, ды яшчэ ў яго веру пяройдзеш?! Ты ж перад смерцю стаіш! Дзе твой розум?..

- За розум мой не хвалюйцеся, яго ў мяне стае. Замуж пайсці ніколі не позна, а што тычыцца майго пераходу ў каталіцтва, дык гэта не надта вялікі грэх. Бог адзін. А я проста закахалася.

Вяселле адбылося, як мае быць. Праўда, сын Роберта і сын Тэклі на свята не прыйшлі, бо ім было сорамна за бацькоў.

У ЗАГСе і ў касцёле госці ледзве ўстрымліваліся ад смеху, гледзячы, як Тэкля выкручвае ногі ў пантофлях на танюткіх шпільках.

Пасля вяселля Тэкля і Роберт хадзілі, трымаючыся за рукі, сядзелі, абдымаючыся, у гарадскім парку і, гаворачы, улюбёна глядзелі ў вочы адзін аднаму.

Суседзі, аднагодкі маладых, пры любой нагодзе кпілі з іх, бо, маўляў, старым падобныя паводзіны непрыстойныя.

- Старым таксама трэба штосьць для жыцця, - звычайна адказвалі Роберт і Тэкля.

- Зусім здзіцянелі! - здзіўляліся суседзі.

Роберт памёр праз год пасля вяселля. Тэкля пахавала яго, як мае быць. На пахаванне не прыйшлі ані Робертаў сын, ані Тэклін.

Мінула два гады ад смерці Роберта. Тэкля адчувала сябе ўсё горш і горш. Склала яна тастамент, аддала суседцы - пані Марце - і сказала, што пасля смерці хай перадасць паперы і Тэкліnаму сыну, і Рабертаваму.

Калі Тэкля памерла, пані Марта так і зрабіла. Гэтым разам на пахаванне прыйшлі абодва сыны. Апошняя пашана старой мела падставы, ды яшчэ якія! У спадчыну бацькі запісалі ім па палове дома, кавалак зямлі за горадам і ашчадны рахунак у банку.

- То добра, што гэтыя старыя перад смерцю так дзіўна закахаліся! - гаварылі ўдзячныя дзеткі. - Праз тое каханне мы шмат чаго набылі!..

**АЎРОРА**

## БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

Так Андрэй Гаўрылюк, наш верны карэспандэнт з Ольштына, назваў зборнік*/ сваіх артыкулаў, якія друкаваліся ў „Ніве" і іншых, польскамоўных часопісах. У зборніку аўтар змясціў таксама ксеракопіі дакументаў аб ягонай дзейнасці як старшыні Ольштынскага аддзела Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

Андрэй Гаўрылюк — карэспандэнт нашага тыднёвіка з 1978 г. Чытачы „Нівы" добра ведаюць яго як разважнага назіральніка грамадскага жыцця. Асабліва з вялікім зацікаўленнем успрымаліся ягоныя артыкулы пра тыя грамадскія групы, з якімі вельмі цяжка знайсці кантакт нават найлепшаму журналісту — пра „скінаў", замежныя і мясцовыя „дзяўчаткі" і прадстаўнікоў розных, афіцыйна неіснуючых, прафесіяў. Заўсёды, калі Андрэй Гаўрылюк прыязджаў на адпачынак у сваю родную вёску Відава, што каля Бельска, дык зараз дасылаў нам свае назіранні з нашага тут жыцця. Відаць, родная зямля спрыяе плёну ягонай творчай натуры. Нам асабіста прыемна, што на вокладцы яго кніжкі відаць віньету нашага тыднёвіка.

На першай старонцы экзэмпляра, які прыслаў у рэдакцыю, аўтар перадаў прывітанні ўсім супрацоўнікам і чытачам „Нівы". Ад сябе і чытачоў шчыра дзякуем.

**Рэд.**

---

*/ *Andrzej Gawryluk, Być Białorusinem, Olsztyn 1993.*

# "МАЛАНКА" Ў ФРАНЦЫІ

- Выступаць перад публікай, якая не разумее слоў нашых песняў, і ачараваць яе - гэта не абы-якое дасягненне, - гаварыў Сяргей Лукашук, кіраўнік "Маланкі".

Песняў "Маланкі" ў Францыі ніхто з мясцовых сапраўды не разумеў. Што праўда, перад канцэртам некалькі слоў было сказана пра песні і сам калектыў, аднак усё астатняе залежала ад самых артыстаў. Трэба было танцам, жэстам і сцэнічным рухам прыцягнуць увагу гледача. Дзеткі з беластоцкага танцавальнага калектыву "Плёнс" мелі крыху аблегчаную ролю, яны толькі танцавалі. Але і танцаваць на чужой сцэне, перад чужой публікай трэба было беспамылкова і цікава.

Абодва калектывы са сваімі ролямі справіліся лепш чым выдатна. Беластачане адрозніваліся ад іншых лепшай падрыхтоўкай і вышэйшым мастацкім узроўнем.

А гэта ўсё праходзіла падчас "Свята Еўропы" ў мястэчку Сен-Ламбер у правінцыі Анжэ на захадзе Францыі. Дванаццаць гадоў таму мястэчка Сен-Ламбер, вядомае, дарэчы як і ўся ваколіца, бадай толькі са сваіх вінаграднікаў і віна, наладзіла сувязь з падобным мястэчкам Лінкебек у Бельгіі, каб такім чынам практычна ўключыцца ў інтэграцыю Еўропы. Гэтыя міжгмінныя французска-бельгійскія суадносіны трэба разумець зусім інакш, як наш прыгранічны абмен. Там маюць яны больш сяброўскі, таварыскі, культурны, а нат сямейны характар. Бельгійцы жэняцца з французжанкамі, паўстаюць супольныя сем'і. А паколькі на сцягу Задзіночанай Еўропы дванаццаць зорак, а сёлета дванаццаць год гэтых кантактаў, ды яшчэ ўдадатак сёлета прыпадае 200-я гадавіна Вандэйскіх войнаў, якія ахапілі таксама тыя тэрыторыі Францыі, дык арганізатары сустрэчы гмінаў Сен-Ламбер і Лінкебек задумалі гэта адзначыць больш урачыста, па-свойскаму, і назвалі гэту сустрэчу "Святам Еўропы". А нашыя калектывы мелі прыдаць бляску гэтаму мерапрыемству - усё-ткі Еўропа адкрытая. А і крыху экзотыкі спатрэбіцца. Апрача таго прыехалі іншыя французскія калектывы і фальклорны калектыў з Партугаліі. Урачыстасці доўжыліся два дні - 29 і 30 мая. У мястэчку былі адкрыты памятныя дошкі, па яго вуліцах маршавалі духавыя аркестры, праходзілі святочныя шэсці, ну і галоўная падзея - урачысты канцэрт (штосьці падобнае да нашых бэгакатоўскіх фэстынаў). Мяне здзівіла тое, што нідзе, у ніводным з паасобных пунктаў гэтых урачыстасцяў не было ксяндзоў.

МІРА ЛУКША

# ТАНЕЦ РУЖОВЫХ ПЕЎНІКАЎ

Ён увайшоў у карчму адразу з гулкай вуліцы, з дробнай, прыемна колкай імжаўкі. У карчме "Пад ружовым пеўнікам", як заўсёды, можна было павесіць сякеру - даўкі дым танных папярос і сівыя далікатныя смужкі цыгарэтак, разам з пахам добрай кавы, злёгку прыгарэлага тлушчу, заскваранай бульбы з цыбулькай, квашаных гуркоў і піражнага з яблыкамі сёння непрыемна казытнулі нос Бабульца. Хлопец скінуў свой вільготны плашч на спінку крэсла, што стаяла адразу каля выхаду з кухні. Невядома, чаму дагэтуль ніхто гэтае крэсла не пераставіў - кельнеркі, якія бегалі па карчме са сподамі, усё зачапляліся за яго, з шоргатам адпіхваючы нагой пад сцену то ўлева, то ўправа, але ніводная не пасмела тое крэсла вынесці хоць бы ў склад, калі ўжо не на сметнік. Быццам гэтая драўляная, з выгібастай парэпанай спінкай мэбля засталася вечным пастаяльцам і часткай гаспадаровай волі старога Федзюкевіча, што яшчэ нядаўна тут уладарыў у фартуху з вышытым ружовым пеўнем. Памерлася Федзюкевічу пару месяцаў таму, сябру і брату Бабульцаваму. Гэта ён, Федзюкевіч, пасадзіў Адама Бабульца за сталом, пад шэрай ад старасці пальмай, наліў кілішак чыстай гарэлкі, не пытаючыся, адкуль узяўся тут, у Зялёнай, худы, высачэзны як вежавы кран, выстрыжаны аж да сінечы бугрыстага чэрапа, з глыбокімі запалымі злоснымі вачыма. У цеснаватым паліто ў шэра-чорную пепітку. Без ніякага багажу, толькі з нейкім шэрым скруткам пад пахаю. Бабулец паклаў тады свой пакунак на суседняе крэсла, паказаўшы на хвілю ў нейкай бездапаможнай усмешцы белыя моцныя зубы. Гаспадар карчмы наліў яму тую гарэлку без спеху, сеў насупраць, паклаўшы свае худыя валасатыя далоні на фартуху з пеўнікам. Федзюкевіч быў панам гэтай мястэчковай гасподы, дзе пад'есці можна было салідна, тлуста, і падпіць няблага, хаця стары не дазваляў занадта буяніць разахвочанай кампаніі. Паненкі ў карчме працавалі пажондныя, кухар галоўны Ян Лапінскі, непітушчы, выдатны майстар, а бульба, гародніна, мяса - усё з акалічных гаспадарак; Федзюкевіч сам ездзіў па вёсках "тарпанам", - купляў, не таргуючыся, на коране, усё "пpыма-сорт". У карчме хапіла, каб у выпадку падазронага шуму, выйшаў з кухні, падняў сваю жылістую, валасатую, з пакручанымі рэўматызмам пальцамі лапу, і найбольш раз'юшаныя бяседнікі маментальна супакойваліся, махалі да гаспадара з-за сталоў, маўляў, - добра, старэча, хадзі, вып'ем на згоду. Федзюкевіч сам не піў, пячонку рак яму раз'ядаў, казалі, а і еў толькі нейкія мляўкія кашкі ды заціркачкі, смак, аднак, меў выдатны. У кухарскіх школах нявучаны, але добра гатаваць веды набыў недзе на поўдні Польшчы, дзесь аж пад Славакіяй. Што там рабіў? Хтось казаў, у карным батальёне быў, за нейкія вайсковыя нячыстыя справы, іншыя - што ў арміі там служыў. З-пад кашулі ці фартуха прабіваліся сінізной татуажы, але ніхто іх у цэласці не бачыў; Федзюкевіч не любіў распавядаць пра сваё мінулае. Але што людзі рознае гаварылі, то праўда. Вядома адно было - з Мацеем Федзюкевічам лепш не пачынаць звады.

Сядзеў тады Бабулец, маўчаў. Гаспадар разглядаў крышынкі хлеба на жаўтлявым абрусе, час ад часу кідаючы вокам на госця.

- Агата, прынясі новую настольніцу! Госця ж маем! - Федзюкевіч ляпнуў у сцягняк кельнерку, прабягаючую міма з пустым посудам.

Дзяўчына справілася хутка. Бабулец прытрымаў кілішак у руцэ, пакуль кельнерка мяняла абрус, потым зноў паставіў яго на стол.

- Гарэлка выпарує, - усміхнуўся запалым ротам карчмар.

- Не п'ю, прабачце, нельга мне. Вельмі дзякую за гасціннасць, - прамармытаў Бабулец так ціха, што Федзюкевіч, каб яго лепей пачуць, нахіліўся над сталом. - Ды і кеса ў мяне пустая. Разбойнікі, разумееце, пераступілі мне шлях на конях...

- Ну, добра. То, можа, есці хочаш? Ага, мяне завуць Мацей, я тут гаспадар. Хочаш есці?

- ...

- Агата, прынясі паесці майму сябру. Ты, хлопец, не крыўдуй, не думай, што я так табе з ласкі, падачку, ялмужну даю, як жабраку. Чаго ты моршчышся?.. Разам пад'ямо. Нам яшчэ, можа быць, не адзін пуд солі прыдзецца з'есці.

- Вы што так мяне... Веш... Мацей... Я... Разумееш... - Бабулец заціснуў губы.

Хлопец моўчкі глядзеў на свае далоні з пазарастанымі пазногцямі, бязладна ляжачыя на каленях. Агата паставіла на стол глыбокую талерку з гурковым супам. Бабулец узяў лыжку.

- Я - Адам.

- Ты што - адразу "аддаваць"? А пераначаваць маеш дзе? Зайдзі да мяне сюды праз дзве гадзіны, як упраўлюся, падумаем...

Федзюкевіч пасяліў тады Адама ў свёй далёкай, адзінай сваячкі, хітранькай з вачэй, жвавай старушэнцы з адным зубам у металёвай каронцы, бабкі Марыські. Бабуля, асаблівай весялосці чалавек, ад рання залівалася дробным смехам, ці то карміла свайго хударлявага падсвінка, ці то палола агарод, ці тапталася ля прыпечка. Адам амаль не лопаў ад смеху, слухаючы Марысьчыных страшных і смешных аповядаў, поўных чорнага гумару. Асабліва пра бандытаў і розныя сібірскія жахі, якіх набачылася, дзіцём быўшы ў бежанстве. Ніякая бяда, ніякія жыццёвыя прыкрасці не зламалі старую Марыську, у якой лёс забраў усё і ўсіх. Засталася дажываць свой век у Зялёнай, у хатцы на канцы вуліцы Ліповай, аброслай крывымі чарэшнямі і агромнымі грушамі-дзічкамі, каторыя засыпалі салодкімі ападкамі-гнілкамі ўвесь падворак і сцяжынку, вытаптаную між лапухамі, глухою крапівой і рапейнікам. Памагаў Бабулец Марысьцы ў агародзе, насіў вёдры вады на градкі, рубаў дровы... Вядома, калі часу яму хапала. Знайшоў Мацей Адаму працу ў "кулку ральнічым". Хлопец быў добры шафёр, але на маглі даць яму вадзіць машыну, як былому турэмшчыку. Работы хапала пры развальваючымся "спшэнце"; Адам вяртаўся дадому бліскучы ад шмараў і поту і доўга шараваўся ў балеі (бабуля ўжо чакала з нагрэтай у бульбяным парніку вадою).

Завёў раз Мацей Адама ў пажарніцкае дэпо. Паказаць новую машыну. Купілі яе якраз за гмінныя грошы, бо старая зусім ужо заржавела. Пажары ў ваколіцы траплялiся нячаста, але камандзе добраахвотных пажарнікаў, сярод якіх быў і Федзюкевіч, даводзілася ў выпадку бяды дапамагаць пажарнікам з суседніх мясцовасцяў; пакуль удавалася завесці іх "чырвонага цмока", бывала, ужо перлі з трывожным енкам на пажар машыны з Беластока ці Саколкі. Хлопцы мелі ў "рамізе" ўсё пажарніцкае абсталяванне, як належыцца, пачышчанае, праверанае; на другім паверсе будынка, у вялікай зале, праводзіліся кожную суботу і нядзелю дыскатэкі, час ад часу траплялася вяселле на нават 200-300 асоб... Ну, вось, купілі новую машыну...

- Адась, давай, запішыся да нас, пажарнікаў, - з усмешкай запрапанаваў Мацей, калі стаялі перад чырвоным, гарачым ад спёкі возам. - Глядзі, якаааая штука! Ну, не адзін пажар пагасім разам, га?

Пажарнікі амаль кожны месяц праводзілі практыкаванні. Бабулец прыходзіў з Федзюкевічам, стаяў побач, назіраў, потым падключыўся да заняткаў.

Першы выезд быў у жніўні. Загарэліся сціртьі новасабранага збожжа на полі "спулдзельні" ў Зубатках, пад самымі хлявамі свінафермы. Высокае полымя і жоўты дым былі відны аж у Зялёнай. Ляцелі штосілы, а разам з імі з усіх бакоў па палявых дарогах і па брукаванцы з Беластока несліся пажарныя машыны. Праўда, збожжа згарэла ўсё датла, але агонь не дайшоў да гаспадарчых будынкаў.

Калі выйшлі з машыны перад сваёй рамізай, засмаленыя і мокрыя, Адам палажыў сваю руку на плечы Мацея:

- Федзюкевіч, веш, мяне пасадзілі за пажар. Падпаліў стадолу. За грошы. Згарэла тады шмат душ.

- Душ?

- Жывёльных. Гэта так, каб ты ведаў, я табе кажу, веш.

Пайшоў памалу, шоргаючы па пяску цяжкімі ботамі, дадому, да сваёй бабулі.

Марыська сядзела на зэдліку, апертая спінай аб выпалавелыя шпалеры, з хусткай, ссунутай на тыл галавы, з усмешкай на запалым роце. У кулаку на падоле сціскала сцягнутую льняную сурвэту, вышываную чырвонай ніткаю ў крыжыкі. Не дыхала.

Тыдняў праз пяць памёр і Федзюкевіч. Высах зусім, быццам у труну наклалі стружынак, такая лёгкая была.

Адам Бабулец потым доўга не паказваўся ў мястэчку, сядзеў у Марысьчынай хаце, хіба што рваў што ў агародчыку, каб пад'есці.

Ужо бралася ў сілу позняя восень. Выйшаў Бабулец увечары з хаты. Увайшоў у карчму адразу з гулкай вуліцы.

---

Святара можна было ўбачыць толькі падчас імшы ў касцёле. "Плёнс" прадэманстраваў танцавальны спектакль азагалоўлены "Расцем"; танцы з рэквізітамі ў стылі дыска і рап. У рэпертуары "Маланкі" знайшліся песні і тыя ўжо вядомыя, і зусім новыя - спецыяльна рыхтаваныя на гэтую нагоду. Важную ролю "Маланка" адводзіла рухавым сцэнам. Пры іншамоўнай публіцы дынаміка калектыву - неабходная справа.

Апрача галоўнага канцэрта "Маланка" заваявала сімпатыю гараджан выступленнямі на вуліцах і пляцах мястэчка. Людзі падыходзілі, пыталіся што гэта за калектыў, адкуль прыехаў, аб чым спявае. Дарэчы, гэта была пакуль што першая нагода для французаў пабачыць і паслухаць беларускі фальклор. Падчас вулічных канцэртаў нашыя музыкі пасябравалі з падобным фальклорным калектывам з Партугаліі і нават сыгралі супольна некалькі твораў. Партугальцы і беларусы, аказалася, маюць шмат чаго супольнага: экспрэсію, дынаміку, адкрытасць ( чаго не заўважыў я ў французаў), хаця музыка была цалкам розная. Відаць, яшчэ раз старая праўда засведчыла пра сябе - музыка не ведае межаў. На французскай зямлі беларускія і партугальскія музыкі разумелі сябе як след. А бадзёрасці ўсім прыбаўляла вельмі добрае віно мясцовага вырабу, якога было ўдоволь.

Пасля "Свята Еўропы" свабодны час выкарысталі мы для турыстычных паездак па краіне. Пабывалі ў Нанце, Анжэ, Парыжы, Версалі. Спазнавалі цікавейшыя помнікі мінуўшчыны - замкі, палацы, сакральныя аб'екты (сапраўды іх шмат), пакупаліся ў Атлантычным акіяне, над Біскайскім залівам, загаралі на ўзбярэжжах Брэтанні, пабачылі самы доўгі мост у Еўропе (звыш 3300 метраў) пры вусці Луары ў акіян. Адным словам, за няпоўны тыдзень зведалі ладны кавалак Францыі. А пакідаючы яе, крыху сумавалі, што пабыўка была такой кароткай.

На заканчэнне, крыху асабістых рэфлексій агульнага характару. Паездка ў Францыю яшчэ раз умацавала маё перакананне, як далёка мы ад гэтай Еўропы, пра якую так многа гаворыцца. Мы яшчэ не падрыхтаваныя да ўваходу ў Супольную Еўропу - ні гаспадарча, ні палітычна, ні тым больш псіхічна, з увагі на менталітэт нашага грамадства. З другога боку не аж так моцна нас там і хочуць у гэтай "супольнай Еўропе". Яшчэ не так даўно ўсё, што на Усход ад Эльбы было для краін Захаду адной Расіяй - няважна ці гэта былі Польшча, Балгарыя, ці Беларусь. Зараз памянялася гэта так, што ўсё на ўсход ужо ад Одры гэта галоднае дзікунства, якое аб нічым іншым не думае, як толькі эміграваць на Захад, у лепшую частку Еўропы. Еўропа для людзей Захаду - гэта Еўрапейская Супольнасць.

**ЮРКА ЛЯШЧЫНСКІ,**
**Радыё Беласток**

**P.S.** Аўтар артыкула дзякуе спадару Сяргею Лукашуку і "Маланцы" за магчымасць супольнай паездкі ды сп. Уладзіславу Праховічу і сп. Ежы Мушынскаму - за дапамогу ў выездзе.



*Новыя сяброўствы...*

# РЭМІНІСЦЭНЦЫІ ПАСЛЯ З'ЕЗДА

Прайшоў XII з'езд БГКТ, можна сказаць, паспяхова. У праграме было ўсё што трэба — як у добрых арганізатараў: і ўрачыстае адкрыццё, і прывітанне шматлікіх гасцей, і павітальныя прамовы. І гэта вельмі важна. Прыбыццё столькі важных асоб з Беларусі і з польскіх устаноў сведчыць добра аб нашай дзейнасці. Нас прызнаюць!

Афіцыйная частка, а пасля абшырны справаздачна-праграмны даклад, справаздача рэвізійнай камісіі, ну і, зразумела, выбары, усё гэта заняло шмат часу. З'езд закончыўся ўдалым канцэртам мастацкай самадзейнасці. Аднак са з'езда выйшла я з пачуццём чагосьці няспоўненага, нявырашанага. Усё гэта адбылося ў адзін дзень, 23 мая 1993 г., і таму мусіць не хапіла часу на мерытарычную дыскусію. А праблемаў у Таварыстве накапілася столькі, што было б аб чым пагаварыць. Зразумела, што такая важная падзея, як статутовы з'езд, які адбываецца раз на 4 гады, павінен галоўным чынам прызначыць час на абмеркаванне ўсіх праблемаў, якія нуртуюць беларускі нацыянальны рух у Польшчы. Але ці ж можна ўспець у адзін дзень?

Адчувалася нейкая паспешлівасць у правядзенні праграмы з'езда. Спроба аднаго з дыскутантаў выказаць больш паглыблены аналіз праблемаў беларускага школьніцтва на Беласточчыне (калі не памыляюся, гэта быў М. Байко з Гайнаўкі) выклікала ў членаў Прэзідыума раздражненне. Не таму, што лічаць гэтую справу няважнай, а проста таму, што не хапала часу на грунтаўнейшае абмяркоўванне гэтай праблемы.

З'езд не вырашыў некалькіх важных спраў, да якіх трэба хутка вярнуцца ў ходзе нармальнай працы нававыбранага ГП. Першая справа — гэта тыднёвік „Ніва". Амаль 36 гадоў быў ён органам ГП БГКТ. Цяпер найбольшая арганізацыя беларусаў у Польшчы пазбаўлена свайго часопіса! На мой погляд, калі збунтавалася рэдакцыйная калегія супроць ГП БГКТ, ці нават цэлага беларускага руху ў Польшчы з ягоным апалітычным накіраваннем, то няхай засноўваюць свой новы часопіс, няхай ён будзе „незалежны тыднёвік Беларусаў у РП", няхай назавуць яго як хочуць, толькі не „Ніва"! Гэты ж тытул павінен быць засцярожаны для органа БГКТ. Такім ён нарадзіўся і такім павінен быць пакуль існуе яго база — гэта значыць Беларускае грамадска-культурнае таварыства на Беласточчыне і ў цэлай РП. Цікавіць мяне, які погляд на гэтую справу мае заснавальнік „Нівы", заслужаны беларускі дзеяч Георгій Валкавыцкі? Якую ролю адыграла „Ніва" на працягу дзесяцігоддзяў, не трэба нікому даказваць. Вось хаця б адзін прыклад — не было б „Нівы", не было б літаратурнага руху. Гэта ж на старонках „Нівы" даспявалі таленты нашых сённяшніх, прызнаных ужо пісьменнікаў і паэтаў. А рух карэспандэнтаў? Тыя ўсе сустрэчы, дыскусіі, якімі кіравала Вера Валкавыцкая? Ці ж не цікавая з'ява? Наогул, без свайго часопіса Таварыству цяжка будзе весці статутовую дзейнасць. Вось хаця б цяпер пасля з'езда. Бачым колькі спраў не было парушана за гэты адзін дзень. Будзь свой тыднёвік, можна было б прадоўжыць на старонках „Нівы" выказванні дэлегатаў, прадоўжыць дыскусію, а пасля інфармаваць аб ходзе спраў. Я ўпэўнена, што гэту справу можна наладзіць. Трэба размоў з Міністэрствам культуры. Знойдуцца напэўна журналісты, якія патрапляць рэдагаваць тыднёвік на дасюляшнім узроўні органа ГП. Калі ўжо пры „Ніве", то хачу сказаць, што выдаваць часопіс гэта яшчэ не ўсё, трэба задбаць, каб ён разыходзіўся. Калісьці і ў Беластоку, і ў Варшаве можна было купіць „Ніву", цяпер яе нідзе няма! У быццам бы дэмакратычнай і плюралістычнай дзяржаве, наложана блакаду на наш тыднёвік, прадаўцы ў кіёсках адказваюць, што ім не пастаўляюць гэтага тытулу, нават калі яны яго заказваюць. Трэба ў гэтай справе штосьць зрабіць. Вяртаючыся да з'езда — справаздача была цікавая і некаторыя фрагменты гэтага дакумента павінны быць апублікаваныя ў „Ніве". Такая інфармацыя аб культурнай дзейнасці, аб калектывах, людзях, якія падтрымоўваюць культурнае жыццё нашай нацыі, могуць зацікавіць шматлікіх жыхароў Беласточчыны, парадаваць не адно беларускае сэрца. А і пра цяжкасці ў культываванні гэтай галіны нашага існавання таксама варта ведаць. Маю на ўвазе раздзел: „Развіццё беларускай культуры".

Хачу яшчэ аднесціся да ўступнай часткі справаздачы, у якой сказана, што гістарычныя перамены ў Польшчы стварылі „лепшыя перспектывы свабоднага і ўсебаковага развіцця". І далей гаворыцца, што такія перспектывы існавалі толькі ў 1989/90 гадах, калі Таварыства атрымала вялікія сродкі з Міністэрства культуры. Паўстае пытанне — як гэтыя сродкі выкарыстала Галоўнае праўленне? Адзін сказ у справаздачы: „Трэба тут аднак падкрэсліць, што не ўсе створаныя магчымасці былі выкарыстаны Таварыствам паспяхова" выклікае ў мяне цікавасць (а можа не толькі ў мяне), колькі паспяхова, а колькі растрачана і на што? Хто за гэта павінен адказваць персанальна. Дзе была рэвізійная камісія? Такіх сродкаў, якія тады атрымала Таварыства, ніколі ў нас не было і больш не будзе. І не падумаць тады, каб выкупіць гэты дом, у якім ГП сядзіць?

Яшчэ адна справа была неяк нясмела закранута ў ходзе з'езда. Гэта патрэба ўганараваць неяк заслужаных дзеячоў беларускай справы. Я да гэтага адношуся з вялікай прыхільнасцю. Найбольш справядліва было б правесці ў гэтай справе плебісцыт. Людзі ведаюць тых, каго варта ўганараваць. А ўжо можна сказаць даволі доўгі спісак усіх тых цудоўных людзей, якія ўвесь пасляваенны перыяд, нягледзячы на розныя цяжкасці і перашкоды, прадуць тоненькую нітачку беларускай справы і дзеля іх працы яна не рвецца. Я на пачатак маю сваіх кандыдатаў: Г. Валкавыцкі, К. Майсеня, А. Баршчэўскі, Н. Мушынская, С. Копа, С. Лукашук, і напэўна ёсць многа яшчэ і іншых дзеячоў з гмін і мястэчак, аб якіх варта ведаць і варта іх уганараваць.

**ГАЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ**
чэрвень 93 г.

**Ад рэдакцыі:** *Выказванне дэлегаткі XII З'езда БГКТ спадарыні Галены Анішэўскай з Варшавы з'яўляецца голасам асобы, якая ўжо шмат гадоў прысутнічае ў беларускім грамадскім і літаратурным руху ў Польшчы. Амаль усё, што гаварылі падчас З'езда лідэры Таварыства і тое, што напісана ў „Справаздачы з дзейнасці БГКТ на працягу кадэнцыі 1988—1992" спадарыня Анішэўская ўспрымае як абсалютную праўду. А там жа напісана, між іншым, што ў Таварыстве 193 гурткі, у якіх дзейнічала 5.438 членаў (стар.4). І гэтая інфармацыя не падаецца як жарт з удзельнікаў З'езда, бо не адбываўся ён 1 красавіка. Немагчыма таксама ўспрыняць як жарт і такое сцвярджэнне са „Справаздачы": „На працягу мінулай кадэнцыі БГКТ падрыхтоўвала і выдавала (...) тыднёвік „Ніва". У выніку інтрыг маладых, новых арганізацый (...) Міністэрства культуры пазбавіла таварыства „Нівы", якая на працягу трыццаці пяці гадоў была органам БГКТ." (стар. 15). Нават найбольш цынічным прапагандыстам рэдка здараецца ў адной фразе змясціць тры „памылачкі". Па-першае: „Ніва" юрыдычна ніколі не была органам Таварыства, а як амаль усе тадышнія газеты ўласнасцю РСВ. Сёння свае пажаданні кіраўніцтва БГКТ прадстаўляе як існуючую быццам бы калісь рэчаіснасць. Па-другое: Міністэрства культуры і мастацтва не аддало „Ніву" Праграмнай радзе, а зрабіў гэта Ваяводскі суд у Беластоку за згодай і па прапанове Ліквідацыйнай камісіі РСВ. Па-трэцяе: „Ніву" заўсёды падрыхтоўвала рэдакцыя. А калі хто хоча даведацца як Таварыства дапамагала „падрыхтоўваць і выдаваць" тыднёвік, няхай прачытае ўспаміны былога галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага („Віры. Нататкі рэдактара". Беласток 1991 г.).*

***Змест артыкула спадарыні Г. Анішэўскай даказвае, што з'езд прайшоў вельмі „паспяхова" для кіраўніцтва Таварыства. Дэмагогія дасягнула стану дасканаласці. Але што гэта абазначае для будучыні беларусаў у Польшчы?***

**Рэд.**

P.S. У матэрыялах дзеячоў БГКТ захоўваем асаблівасці стылістыкі і тэрміналогіі, каб зноў не было закідаў аб „маніпуляцыі" (глядзі: „Справаздача з дзейнасці...", стар. 16).




**Projekt nowego prawa prasowego bez ideologii**

## PRASA WOLNA

**Eksperci Biura Prasowego Rządu przygotowali nowy projekt ustawy o wolności prasy, która ma zastąpić dotychczasowe, obowiązujące od 1984r., prawo prasowe. Dokument został rozdany dziennikarzom, wkrótce trafi pod obrady Komitetu Społeczno-Ekonomicznego Rady Ministrów.**

Zgodnie z projektem media nie muszą podobać się żadnej władzy. Prasa jest wolna, a cenzura zakazana. W zapisie o cenzurze chodzi o zakazanie organom państwowym wykonywania praw redaktorów naczelnych i uniemożliwienie ingerencji w wewnętrzne sprawy redakcji.

**Projekt zakazuje utrudniania dziennikarzowi zbierania materiałów, tłumienia krytyki i utrudniania druku publikacji „z powodu ich linii programowej lub treści".**

Instytucje państwowe i organa samorządu mają mieć obowiązek udzielania dziennikarzowi informacji o swojej działalności. Natomiast pracownicy instytucji — jeśli działali zgodnie z prawem — nie mogą być karani za przekazywanie informacji.

Według omawianego projektu informacji można odmówić wtedy, gdy chodzi o rzecz objętą tajemnicą państwową lub służbową, gdy ma miejsce „stan wyższej konieczności" oraz gdy informacja dotyczy prywatnego życia obywatela, ma wartość handlową, gdy zawarta jest tylko w materiale roboczym lub gdy jej udostępnianie „wymaga nadmiernych nakładów".

Dziennikarz, któremu odmówiono informacji może jednak zaskarżyć tę decyzję do sądu.

**W projekcie zrezygnowano także z prawa do autoryzacji wypowiedzi. Wyjątek stanowią informacje dotyczące życia prywatnego osoby, które można publikować wyłącznie za jej zgodą.**

Nowością jest również zezwolenie na ujawnianie nazwisk, jeżeli „są to osoby powszechnie znane, a ich związek ze sprawą jest powszechnie znany".

Co może dziennikarz?

Ma przede wszystkim prawo do własnych poglądów. Może też odejść z pracy bez wypowiedzenia, jeżeli zmienia się wydawca lub linia programowa redakcji. Nie wolno mu natomiast prowadzić "ukrytej działalności reklamowej związanej z uzyskaniem korzyści".

Redakcja miałaby ponadto prawo odmówić zamieszczenia ogłoszenia albo reklamy, jeśli ich treść lub forma jest sprzeczna z jej linią programową. (...)

*(„Kurier Poranny" Nr 112 z 15.06.1993 r.)*




**Частка I**

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Не так даўно маланкай разышлася вестка аб тым, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанавіў увесці Беларусь у вайсковы саюз з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Вестка гэта паразіла перад усім мяне. Чаму? Таму, што больш года таму назад, у час візіту міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі ў Польшчу, быў я запрошаны на ўрачысты абед, які выдаваў у гонар беларускага госця міністр замежных спраў Польшчы Кшыштаф Скубішэўскі. Міністр К. Скубішэўскі перад абедам вельмі цікавіўся клопатамі і праблемамі беларускай нацыянальнасці ў Польшчы. Аднак аб гэтым была гутарка паміж намі толькі перад абедам, калі яшчэ міністра П. Краўчанкі не было ў зале. Калі міністры селі за стол, гутаркі аб нацыянальных меншасцях не вялі. Я ў такой сітуацыі быў толькі нямым госцем і мой абавязак зводзіўся да таго, каб з'есці смачны абед. Аднак я не толькі еў, але і слухаў. Істота дыпламатычных абедаў заключаецца ў тым, што госці не толькі ядуць, але і вядуць сур'ёзныя размовы, якія маюць важнае значэнне, як для аднаго, так і для другога боку. І вось падчас гэтага абеду міністр Скубішэўскі зазначыў, што Польшча будзе імкнуцца да таго, каб раней ці пазней звязацца з НАТО. Міністр Пётр Краўчанка ў адказ выступіў з тостам, заявіўшы, што Беларусь будзе паслядоўна прытрымлівацца прынцыпу нейтралітэту і ў сувязі з гэтым не намерваецца ўступаць у якія-небудзь вайсковыя саюзы. Паўтараю — не намерваецца ўступаць у якія-небудзь вайсковыя саюзы. Мушу сказаць, што седзячы за сталом, я з гонарам і глыбокім задавальненнем слухаў Пятра Краўчанку, бо тое, што ён сказаў, глыбока адпавядала і маім поглядам. Мне таксама здавалася, што Беларусь павінна аставацца па-за ўсякімі вайсковымі пактамі і блокамі. Я быў упэўнены, што Рэспубліка Беларусь будзе цвёрда і паслядоўна трымацца сказанага Краўчанкам, бо быў перакананы, што выкладзеная ім ідэя адлюстроўвае дзяржаўную дактрыну Рэспублікі Беларусь, разлічаную не толькі на сённяшні дзень, але і на цэлыя дзесяцігоддзі наперад. Так яно аднак не сталася. Тое, што наступіла ў Вярхоўным Савеце, поўнасцю запярэчыла таму, што сказаў міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Вось таму пастанова Вярхоўнага Савета адносна ўваходу Беларусі ў вайсковы саюз незалежных дзяржаў, што практычна абазначае — у саюз з Расіяй, было для мяне свайго роду громам з яснага неба.

Зразумела, што вечных дактрын няма. Як індывідуальны чалавек пераходзіць эвалюцыю поглядаў, мае права мяняць свае ідэі або так званую філасофію жыцця, так і дзяржава павінна, а можа нават абавязана, мяняць час ад часу свае палітычныя дактрыны, у тым і сваю замежную палітыку, у рамках якой змяшчаюцца таксама магчымасці выхаду ці ўваходу краіны ў вайсковыя саюзы. Такія змены і павароты, на маю думку, павінны, аднак, наступаць параўнаўча рэдка. Дзяржава, якая часта праводзіць такога тыпу змены, не заслугоўвае даверу з боку суседзяў, якія з пазіцый прыязных да яе могуць перайсці на пазіцыі варожых. А гэта для Беларусі — з'ява непажаданая. Справа ў тым, што ў вайсковы саюз Садружнасці Незалежных Дзяржаў напэўна не ўступяць такія суседзі Беларусі, як Літва, Латвія, Эстонія і, праўдападобна, Украіна. Пра Польшчу не можа нават быць гутаркі. Такім чынам Беларусь, звязваючыся вайскова з Расіяй, адначасна рашуча пагоршыць свае стасункі з усімі вышэй названымі суседзямі. У палітыцы трэба несумненна заўсёды калькуляваць. Мне здаецца, што калькуляцыя ў гэтым выпадку не ў карысць ідэі вайсковага саюза Беларусі з Расіяй.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
## старонка для дзяцей

*МІРА ЛУКША*

### ВЕРАБЕЙ АНІКЕЙ



Анікея запрасілі
Сёння на вяселле:
Будзе добрым Анікей
Сватам-вадзірэем!

Засцілайце ж цісовыя сталы,
Накладайце пшанічныя хлябы.
Налівайце мёд-віно ў кубкі,
Спадзявайцеся любых гасцей!



Сперазалі ручніком
Вераб'я пад бокі,
Ходзіць колам-хадуном,
Уподбежкі-падскокам.

Адну песню запяе,
Прымаўку дакіне,
Жарт-загадку задае —
Гумар вераб'іны.



Засцілайце ж цісовыя сталы,
Накладайце пшанічныя хлябы.
Налівайце мёд-віно ў кубкі,
Спявайце песню вясельную,
любыя госці!





*Сяброўкі з пушчанскай вёскі.* **Фота М. Лукшы**

## МОЙ РОДНЫ КУТ...

Спявае ансамбль „Песняры":

*Мой родны кут, як ты мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы!..*

Гэтыя натхнёныя радкі напісаў народны паэт Беларусі Якуб Колас. Шмат цікавых кніжак стварыў ён для дарослых і дзяцей.

А дзе ж той родны кут, які ўсім сэрцам любіў пясняр?

Шмат разоў праязджаў я праз Стоўбцы — горад па Брэсцкай шашы. Даўно ведаў пра Мікалаеўшчыну, пра хутар Смольня, дзе „пазнаваў прыгоствы, суладнасць і чары прыроды" наш славуты Якуб Колас. Ды вось аднойчы і завітаў у жаданую мясціну.

Перад асфальтаванай стужкай расступіўся малады хвойнік. У вокны машыны замахалі калматыя іглістыя галінкі. Вось яна, былая сядзіба Міцкевічаў. Дзве забудовы. У адной — музей. Другая — копія той, дзе жыла дружная сям'я. Высокія разложыстыя ліпы. Іх пасадзіў Колас. Яны ў роздуме пакалыхваюць лісцем, нібы вітаюць гасцей словамі паэта: „Прывет вам, племя маладое!"

Музейная сядзіба — у вянку прывабнай зеляніны. А воддаль — задумлівы Нёман. У пазалоце пяску яго берагі. Прыгадваюцца радкі:

*Высокі Бераг, кут мой мілы!*
*Люблю я жоўць тваіх пяскоў,*
*Разложыстых хвоек гурт пахілы*
*І ціхі гоман лазнякоў.*

Чароўная паэзія Коласа, з якой мы знаёмы з дзяцінства, тут, у Мікалаеўшчыне, загучала незвычайнай мелодыяй. Такое адчуванне, што тут і сёння і песцяць яго жаўруковыя спевы, ціхі плёскат нёманскіх хваль.

У хаце Міцкевічаў усё кранае душу. Вось печ-ляжанка, дзе халоднымі зімовымі вечарамі збіраліся дзеці паслухаць байкі дзядзькі Антося. А во дзяжа, у якой маці рашчыняла смачныя блінцы. Стол каля акна. Усю ноч прасядзелі за ім Якуб Колас і Янка Купала ў першае сваё спатканне. Моцнае іх сяброўства на доўгія гады пачыналася ў гэтай хаціне. Адну вечную песню склалі яны — пра свой народ, пра родную Беларусь, пра моцную дружбу нашага народа з іншымі народамі свету, пра любоў і адданасць сваёй мілай Айчыне.

А вытокі іх творчасці, бязмежнай любові да людзей і краіны — тут, у родных мясцінах. Пра сваю Вязынку Янка Купала пісаў:

*Я тут бачу свой край,*
*Поле, рэчку і бор,*
*Сваю матку-зямлю*
*Беларусь!*

Калі вы будзеце ехаць электрычкай з Менска на Маладзечна, то праз паўгадзіны пачуеце аб'яву: „Станцыя Вязынка". Перад вамі — маляўнічы куток беларускай зямлі, радзіма народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Цяпер у Вязынцы Купалаўскі мемарыяльны запаведнік. Адноўлена хата, у якой будучы паэт вучыўся хадзіць, з якой упершыню ўбачыў прыгажосць свету.

З заміраннем сэрца заходзім у сенцы. Тут сабраны прылады працы, якімі карысталіся бацькі Янкі: жорны — малоць муку, ступа — таўчы крупы, дзяжа — рашчыняць хлеб, куфэрак — складваць ручнікі, бялізну.

Пераступаем парог — і мы ў пакоі. Адразу кідаецца ў вочы печ з прыпечкам, падпечкам. Пасярод хаты, падвязаная да бэлькі, вісіць калыска. На сцяне — бацькава стрэльба. А каля лаўкі — самапрадка, на якой маці прала кудзелю, каб пасля ткаць палатно.

Каля хаты — сажалка з бруістай ручаінай, растуць старыя ліпы і бярозы, лагодна пагойдваюць сваімі шатамі вязы, дубы, таполі і бэз. А далей раскінулі палеткі гаспадаркі імя Янкі Купалы.

На Купалле, у дзень нараджэння Янкі Купалы, у Вязынцы заўсёды мноства гасцей. Весела праходзіць Свята паэзіі. Паэты і артысты чытаюць вершы, а дзявочыя карагоды спяваюць песні на словы Янкі Купалы:

*На Купалле на святое*
*Рві, матуля, зелле тое,*
*Што ў нас папараць завецца!*
*І шчаслівым быць здаецца!*
*Як узыдуць з зелля кветкі —*
*Будуць шчасце меці дзеткі,*
*Будзеш, маці, меці ў хаце*
*Долю, згоду і багацце!..*

У кожнага з вас, сябры, свой родны кут. Вам добра жывецца там, дзе нарадзіліся, ходзіце ў школу. Навучыцеся любіць і шанаваць сваю вёску ці горад так, як гэта ўмелі Янка Купала і Якуб Колас. А будзе магчымасць — абавязкова пабывайце ў Вязынцы і Мікалаеўшчыне.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**



*УЛАДЗІМІР СКАРЫНКІН*

### ПАД ЯЛІНАЙ

Пад ялінай ля камля
Зварухнулася зямля.
І лісічкі-весялушкі
Паднялі адразу вушкі.
Разважаюць:
Што за цуд?
Што за звер схаваўся тут?
Можа, гэта робіць крот
Пад зямлю таемны ход?
Можа, гэта чарвякі?
Можа, проста жук які?
Гэта ж іхні сваячок —
Таўсцячок-баравічок.

### ЭНІКІ-БЭНІКІ РЭЗАЛІ ВЕНІКІ
*(лічылачка)*

Энікі-
Бэнікі
Рэзалі
Венікі,
Хараша
Ў лесе
Было
Усім.
Венікі
Звязваў,
Казкі
Расказваў
Энікам-
Бэнікам
Кот
Максім.
Цэлая
Вязка —
Руская
Казка.
Толькі
Бярэмя —
Казка
Брэма.
Ты
Ленаваўся
Па вецце
Хадзіць —
Будзеш
Вадзіць.

### МОР-КВА-КВА

З агарода ўнук ідзе
І пытае бабкі:
— Што рабілі на градзе
Ў агародзе жабкі? —

Хітрым робіцца пагляд
У бабулі Галі:

— Пэўна,
моркву з нашых град,
Як і мы,
цягалі.
У пашане морква ў жаб.
Чуеш, там,
дзе багна,
Чысцяць моркву —
шкраб ды шкраб! —
Тыя жабкі прагна.

А зялёная дзятва,
Узяўшыся за рукі:
— Мор-ква!
Мор-ква!
Мор-ква-ква! —
Скача без прынукі.

### ЦІ ЁСЦЬ ЖАБРЫ Ў ЖАБ?

Там,
дзе леснікова хата,
Жабы квакаюць заўзята.
Апяваюць родны кут.
Жабурынне —
там і тут.
А скажы —
ці ёсць у жабы
Хоць маленечкія жабры?
Я лавіла жаб сама
І разглядзела —
няма.

# НАШЫ АДЗІНОКІЯ СТАРЫЯ
## - 2 -

Зараз з'явіўся тэрмін "адзінока жывучыя старыя" - гэта значыць, што яны маюць дзяцей і ўнукаў, але даглядаць іх усё роўна няма каму. У чым жа прычыны старэчага адзіноцтва? Вядома, нярэдка віной таму самі бацькі, якія не выхавалі ў сваіх дзяцей пачуцця любві і прыхільнасці да сябе, вырасцілі людзей, што ўмеюць толькі прымаць усё як належнае, але нічога не аддаваць пры гэтым. Не сакрэт, што бацькі іншы раз самаўхіляюцца ад выхавання, перакладваючы рашэнне ўсіх праблем на дзяржаўныя дзіцячыя ўстановы, а дзіця вырастае толькі госцем бацькоўскага дому. Цесныя сяброўскія сваяцкія сувязі аслабляюцца.

Марк Твэн пісаў: "Мы заўсёды вельмі заняты для сваіх дзяцей і не ўдзяляем ім ні часу, ні ўвагі, якіх яны заслугоўваюць. Мы засыпаем іх падарункамі, але самы каштоўны падарунак - радасць узаемаадносін, дружбу - мы дорым неахвотна і растрачваем на тых, каму мы зусім не патрэбны. Але ў рэшце рэшт мы атрымліваем па заслугах. Надыходзіць час, калі нам больш за ўсё патрэбна дружба дзяцей, іх увага, і нам дастаюцца тыя жыццёвыя дробязі, якія выпалі на іх лёс".

У большасці выпадкаў галоўным, а падчас і адзіным звяном, якое звязвае з жыццём старога чалавека, становіцца сям'я. Яна - крыніца яго радасцей і клопатаў. Калі чалавек выходзіць на пенсію, становішча ў яго доме рэзка мяняецца. Былы лідэр сямейнага калектыву аказваецца ў становішчы чалавека залежнага, пазбаўленага самастойнасці. І ад таго, як у гэты пераломны момант будуць трымаць сябе члены сям'і, залежыць псіхічнае і фізічнае самаадчуванне пажылога чалавека, яго маральны стан.

Часам, выйшаўшы на пенсію, чалавек натыкаецца на душэўную глухату блізкіх. Але хто, як не яны, могуць дапамагчы старому чалавеку зберагчы эмацыянальную раўнавагу, прыстасавацца да новага рытму жыцця, знайсці ў ім сваё месца. Там, дзе да старых адносяцца дружалюбна, клапатліва, з павагай, яны даўжэй застаюцца бадзёрымі фізічна, актыўнымі ў штодзённым жыцці. У такіх сем'ях і дзеці з малых год атрымліваюць наглядны ўрок чуласці, дабрыні, разумення. Свядомасць таго, што яны патрэбны блізкім, прыдае сілы, падымае настрой.

Горыч адзіноты... Яна крыніца пакут пажылых людзей. Гэта бачаць і разумеюць усе, хто іх акружае.

Раней было так, што дзеці станавіліся адзінай апорай бацькоў у старасці. Зараз патрэбы ў гэтым часта няма, і бацькі іншы раз самі могуць дапамагаць дзецям. Але, забяспечваючы іх матэрыяльнымі дабротамі, бацькі неяк не задумваюцца аб тым, што прывычка жыць на ўсім гатовым прынясе свае горкія плады: калі, стаміўшыся, бацькі раптам аслабляюць сваю дапамогу дарослым дзецям, тыя пачынаюць выказваць расчараванне, крыўду.

Напэўна, не ў характарах людзей патрэбна шукаць прычыну адзіноты старых пры жывых дзецях, а ў характары тых узаемаадносін, якія склаліся паміж імі і якія не ўсе дзеці і іх бацькі ўмеюць пабудаваць на аснове душэўнасці і мудрасці.

Зразумела, кожнаму неабыякава, якой будзе яго ўласная старасць - сагрэтай любоўю і клопатамі дзяцей або адзінокай і маркотнай. Нашаму грамадству таксама неабыякава, каго мы выхоўваем: чорствых эгаістаў або душэўна багатых, шчодрых, спагадлівых людзей, якія не забываюць сваіх каранёў.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В.БАЛЦЭВІЧ,
Л.ГАРБАЦЕНКАВА**

# КАЛЯРОВАЯ „ЗОРКА”



*Памалюй палі, пазначаныя колцам — чорным, крыжыкам — блакітным, кропкай — жоўтым, рыскай — аранжавым колерамі.*

**НАША СПАДЧЫНА**

## ГІМН ПРЫГАЖОСЦІ

Нашы продкі любілі прыроду, пакланяліся ёй, як перад богам, надавалі галоўным з'явам яе думкі і пачуцці, уласцівыя чалавеку. Сонца, зямля, агонь, вада, дождж успрымаліся як з'явы, якія даюць жыццё прыродзе. У лесе быў свой дух - лесавік, у вадзе - вадзянік, у полі - палявік, у хаце - дамавік. Людзі прыносілі ім ахвяры, ставілі скульптуры, малявалі іх на хатніх рэчах.

Амаль усё гэта было знішчана пасля прыняцця хрысціянства, тысячу гадоў назад. І толькі адзін від народнай творчасці захаваў пра іх памяць - мастацкае ткацтва і вышыўка. Гэта, перш за ўсё, абрусы, посцілкі, ручнікі, андаракі, на якіх мы бачым узоры з сімваламі язычніцкіх славянскіх бажкоў.

Галоўным бажаством у славян было сонца. Вогненны шар, які плыў па небе, даваў святло і цяпло. У вырабах мастацкага ткацтва ўзор сонца мае выгляд ромба з промнямі з вонкавага боку. Вышыўкі сімвала сонца можна было сустрэць у любой хаце Русі.

Вялікай пашанай карыстаўся вобраз Вялікай багіні - мацеры сырой зямлі, прамаці ўсёй прыроды, усяго жывога. Вобраз маці-зямлі мае розныя малюнкі. У адным выпадку - гэта ромб з промнямі, якія накіраваны ўнутр ромба; у другім - складаецца з маленькіх ромбікаў рознага колеру; у трэцім - узор маці-зямлі адлюстроўваецца ў выглядзе сіметрычнай жаночай паставы.

Вось як, напрыклад, выглядае ручнік, вышыты сялянкай з вёскі Запруддзе Шаркоўшчынскага раёна. Вобраз маці-зямлі адлюстраваны ў паставе жанчыны ў верхняй частцы ручніка. Жанчына трактуецца як галоўны аб'ект сусвету, вакол якога круціцца зоркавы свет. Ніжэй сімвал сонца ў выглядзе ромба промнямі вонкі, сімвал Перуна - грознага бога грому і маланкі.

Назіраючы доўгі час рух сонца на небе, у беларусаў скла́ліся свае арыгінальныя тлумачэнні гэтай з'явы. Калі сонца ўвосень апускаецца нізка над гарызонтам, яно дрэнна грэе зямлю, надыходзяць халады. Але вясной сонца высока падымаецца на небе, пасылае на зямлю цяпло і святло, прырода расцвітае.

Гэты працэс суадносін зямлі і сонца ўлетку і зімой знайшоў адлюстраванне ва ўзорах мастацкага ткацтва на Беларусі. Вось, напрыклад, арнамент посцілкі сялянкі Н. Фёдаравай з мястэчка Сураж. Галоўная частка тут - ромб з промнямі. Выкананы ён у белым колеры. Гэта сімвал маці-зямлі. Унутры ромба змешчаны другі, але з промнямі з вонкавага боку - выкананы ў чорным колеры. Гэта сімвал сонца. Промні зямлі цесна спляліся з промнямі сонца. Яны і раскрываюць працэс яднання сонечнага святла і цяпла з жыццёвай сілай зямлі, у выніку чаго і абуджаецца вясной прырода.

Цудоўная беларуская прырода з яе лясамі, палямі, серабрыстымі рэкамі і азёрамі таксама адлюстравана ў мастацкім ткацтве. На посцілцы, якую выткала П. Міхайлава са Шклова, мы бачым узор магутнага дуба. Гэта - сімвал беларускага лесу.

На ручніку А. Бутрым з Пінскага раёна вышыты ўзор ракі ў выглядзе рознакаляровых палос рознай шырыні, а на посцілцы калгасніцы з вёскі Маргойцы Сенненскага раёна Е. Даражэнка адлюстравана крыніца ў выглядзе сіметрычнай разеткі.

У старажытныя часы людзі меркавалі, што кожны чалавек мае на небе сваю зорку. Колькі людзей на зямлі, столькі і зорак на небе. Узор зоркі чалавека кампануецца з васьмі пялёсткаў.

Стварэнне сімвалаў прыроды сведчыць пра вялікую любоў беларусаў да прыроды, пакланенне перад яе магутнасцю і прыгажосцю.

**МІХАЛ КАЦАР**

# БУДАЎНІКІ

Віця — хлопчык упарты. Выйдзе бабуля на балкон і гукае на ўвесь двор:

— Віця, ідзі абедаць!

А Віця мяч ганяе, адмахваецца:

— Зараз!..

Праз колькі хвілін бабуля зноў крычыць:

— Віця, колькі цябе чакаць? Абед стыне!

— Зараз!..

Дзеці ў двары так і клічуць хлопчыка — Зараз.

Увесь першы паверх вялікага дома, у якім жыве Віця, рамантуецца. У двары — горы белай цэглы, розных плітак, дошак, брускоў.

Пасля школы хлопчыкі і дзяўчынкі спяшаюцца да рамонтнікаў. Падаюць ім цэглу, падносяць паркеціны.

— Без вас управімся, — кажа дзецям майстар дзядзька Хведар. — Лепш складзіце сабе дом. Толькі асцярожна, не біце цэглы...

— Мы пабудуем палац! — узрадавалася Тайка і абвясціла: — Запісвайцеся ў будаўнічую брыгаду.

У брыгаду запісаліся ўсе дзяўчынкі, прыйшоў і Віця са сваімі сябрамі. Праца закіпела.

Будаўнікі так завіхаліся, што не заўважылі, як падышла настаўніца.

— Што гэта будзе?

— Палац культуры, Вольга Зміtраўна, — весела адрапартавала Тайка. — Тут — зала. Тут — бібліятэка. А тут — пакоі для гуртткоў.

— Малайцы! — пахваліла настаўніца. — А хто ж у вас архітэктар?

Усе глядзяць на Тайку, а дзяўчынка круціць галавой: не, яна брыгадзір.

І тут вытыркнуўся наперад Віця.

— Я буду архітэктарам!

— Ты? — здзівілася настаўніца. — Тады пакажы, як будзеце заходзіць у залу?

Хлопчык аглядвае залу, бянтэжыцца — дзвярэй няма.

— Можа, праз дах?

— Не дагледзелі, — апраўдваецца Тайка. — Разбяром палац і складзём нанава. Будуць і дзверы, і вокны, усё як належыць.

— Добра, вечарам праверу, — кажа Вольга Зміtраўна і глядзіць на Віцю: — Будзь уважлівы, архітэктар!

З пад'езда выходзяць рамонтнікі. Павітаўшыся з імі, Вольга Зміtраўна пытаецца:

— Скажыце, вы дазволілі вучням будаваць дом?

— Дазволілі, — ахвотна адгукаецца дзядзька Хведар. — Толькі дамовіліся, каб цэглу клалі асцярожна, не білі.

Тым часам з балкона клічуць:

— Віця, ідзі абедаць!

Віця не адмахваецца, як раней, а падыходзіць да Тайкі, шэпча ёй на вуха:

— Я зараз вярнуся...

І бяжыць у свой пад'езд. А здзіўленыя сябры глядзяць услед: першы раз паслухаўся. Можа, Віця сапраўды будзе архітэктарам?

**УЛАДЗІМІР МЯЖЭВІЧ**



# КАЗКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, ЯКІЯ НЕ ХОЧУЦЬ КЛАСЦІСЯ СПАЦЬ

**Англійская казка**

Была цёмная ноч. Дзьмуў рэзкі халодны вецер. У пячоры вакол вогнішча сядзелі дванаццаць грабежнікаў. Галоўны грабежнік сказаў таму, хто сядзеў побач:

— Раскажы нам казку!

І той пачаў:

— Была цёмная ноч. Дзьмуў рэзкі халодны вецер. У пячоры вакол вогнішча сядзелі дванаццаць грабежнікаў. Галоўны грабежнік сказаў таму, хто сядзеў побач:

— Раскажы нам казку.

І той пачаў:

— Была цёмная ноч. Дзьмуў рэзкі халодны вецер. У пячоры вакол вогнішча сядзелі дванаццаць грабежнікаў. Галоўны грабежнік сказаў таму, хто сядзеў побач:

— Раскажы нам казку!

І той пачаў:

— Была цёмная ноч. Дзьмуў рэзкі халодны вецер...

І так цягнецца гэтая казка да таго часу, пакуль усе дзеці не пазасынаюць у сваіх ложках.

**Пераклаў
Алесь Кудраўцаў**

# МА КАТ РАЗМЫ

### ІДАЛАЛОГІЯ

Сцятыя вусны. Відучы зрок.
Да цалі ў заўтра звернуты крок.
У поцемках дзеяў мільгаюць гады,
А ён у бронзе застыў малады.
Далонню пудоваю раструшчвае даль.
А ля падножжа рагоча бяда.
У гарачых пунктах бліскае зброя,
Паветра пахне свежай крывёю.
І замест здані мат-перамат
Віруе над намі: І зноў адкат!

На гарызонце ў вопратцы лідэрнай
Ужо бранзавеюць новыя ідалы.

Схапіўся загрудкі са строем строй -
Ідалы прагнуць ахвярных кастроў.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## СА "СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Брэндзі** - трунак, што складаецца з адной часткі навальніцы, адной часткі ўнікаў, двух частак жахлівага забойства, адной часткі пекла і чатырох частак чысцюткага д'ябла. Доза - кожны дзень да галавакружэння. Доктар Джоўнс кажа, што гэта напой герояў. Толькі сапраўдны герой наважыцца выпіць гэта.

**Будучыня** - той перыяд часу, калі нашыя справы ідуць добра, сябры нам не здраджваюць і нашаму шчасцю ніхто не пагражае.

**Бязбожнасць** - твая абыякавасць да майго бажаства.

**Веды** - род невуцтва, якім вучоныя адрозніваюцца ад іншых.

**Відэлец** - інструмент, з дапамогай якога мы кладзем у рот мёртвых жывёл. Раней для гэтага карысталіся нажом, у наш час некаторыя адукаваныя людзі ўжываюць абедзве прылады. Тое, што гэтыя людзі не паміраюць на месцы, паказвае, што Бог літасцівы да тых, хто адышоў ад яго.

**Віншаванне** - ветлівы твор зайздрасці.

**Воплескі** - рэха банальнасці.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

## СЕНТЭНЦЫІ

Разумны сее, каб збіраць,
Дурны сее, каб сеяць.

* * *

Ноч з'яўляецца крайнасцю,
ведае адзін колер - чарнату.

* * *

Жыццё капае згушчаным да мяжы магчымасці часам.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА

*Мал. Я. Бусла*

## АНЕКДОТЫ "ПРА ГЭТА" АД В. МАРТЫНЕНКІ

Два браты-блізнюкі (рускамоўны і беларускамоўны) апынуліся на Захадзе. Пагулялі і не ведаюць, за якія грошы вярнуцца дамоў. Вырашылі падзарабіць у публічным доме для жанчын. Маўляў, там у нас роўныя шанцы.

Утрымальнік дома запытаў першага:
- Ваша імя?
- Іван.
- Якая ў вас рэакцыя на жанчын?
- Всегда положительная.
- Можаце быць вольнымі, - адказвае ўтрымальнік і пытае другога.
- Ваша імя?
- Алесь.
- Якая ў вас рэакцыя на жанчын?
- Заўсёды станоўчая.
- Выдатна. Сардэчна запрашаем.

* * *

Ідзе шлюбаразводны працэс - разводзяць беларуса і расейку. Суддзя пытае жонку:
- Чым вас не задавальняў сужонак?
- Он потерял всякий стыд. Стоило нам остаться наедине, как он тут же заставлял меня раздеться. Даже в общественных местах.

Суддзя пытае мужчыну:
- А вам чым не падабаецца сужонка?
- Яна таксама страціла сорам. Я прапаноўваю ёй бязвінную гульню ў хованкі - кажу: "На лік "раз" ты павінна куды-небудзь дзецца". Лічу да аднаго - яна тут жа ў любым месцы пачынае распранацца. Хіба так трэба разумець лік?

*("Чырвоная змена")*

*УЛАДЗІМІР ПРАВАСУД*

## ЛЯВОНІХА - 93

Ой, Лявоніху Лявон палюбіў
Чаравічкі, праўда, ёй не купіў.
Хоць дзяўчына - душа ласкавая, -
Ды зубамі так заляскала,
Так зірнула на Лявона з-пад ілба,
Што ў Лявона закружыла галава,
Сэрца ёкнула, балюча запякло, -
У той момант нават мову адняло.
А Лявоніха ўзлаваная,
Як вядзьмарка апантаная,
Вымаўляла злюкам-роцікам:
- І не толькі чаравічкі, а і боцікі!
А іначай - не пушчу і на парог!
Прашаптаў Лявонка бедненькі, як мог:
- Каб жа гэта ўсё набыць, табе
прынесці,
Колькі ж месяцаў не піць мне і не есці?!
Адказала тут Лявоніха рухава:
- Ну, а мне, скажы Лявон, якая справа?
У Лявона аж зашкаліла дыханне...
...Аб абутак так разбілася каханне.

# ГУМАР

- Вось, цётка, будзеш даваць гэтае лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.
- А божа ж мой! Дзе ж я вазьму столькі лыжак! У мяне толькі іх чатыры.

* * *

Настаўнік вячэрняй школы звяртаецца да сябра-лекара:
- Ну, як ты там з хворымі?
- Нічога. Добра. Ляжачых няма. А як у цябе? - цікавіцца ў сваю чаргу.
- З наборам добра, але мала хадзячых, - адказвае настаўнік.

* * *

Аднаму вельмі ганарыстаму салдату ўдалося атрымаць чын яфрэйтара. І калі ўжо на пагонах меў па адным лычку, атрымаўшы водпуск, выйшаў на шпацыр. Сустрэўшы генерала, ганарысты салдат нават і не думаў, каб "узяць пад казырок".

Абураны генерал затрымаў салдата і давай лаяць:
- Што ж з цябе за радавы, калі ты генералу не аддаеш належнага гонару?
- Выбачайце, пан генерал. Па-першае, то я не радавы, - фанабэрыста зірнуўшы на свае яфрэйтарскія пагоны, адказаў салдат. - А па-другое, не трэба сварыцца, бо калі чыны паміж сабою пачнуць лаяцца, дык што ж тады салдаты скажуць!

* * *

Салдат, які быў на вайне, хваліцца:
- Вось была разня, дык разня, і я аднаму нагу адсёк.
- Чаму нагу, а не галаву?
- Бо галаву яму хто іншы зняў!

* * *

- Працаваць умееш?
- Умею.
- А да гарэлкі ты не ласы?
- Гарэлкі я і ў губы не бяру, хіба калі сябрукі праз гвалт ульюць і толькі ўжо п'янаму, бо цвярозы я б не даўся.

* * *

Жонка падала ў суд мужа за тое, што ён яе пабіў. Суддзя, не могучы пагадзіць іх, засудзіў мужа на два месяцы арышту.

Пачуўшы гэта, муж азываецца да жонкі:
- Дурная ты баба, хто ж цябе цяпер біць будзе, як мяне пасадзяць?

Жонка, крыху падумаўшы, кажа да суддзі:
- Мо даруйце яму, ці што, пане суддзя!

* * *

Суддзя: Чаму гэта вас кожная спрэчка даводзіць да біцця? Разумны павінен дурному заўсёды ўступіць!..

Падсудны: А чаму ж ён не хоча верыць, што я за яго разумнейшы?

*Падборку зрабіў*
*ЯНКА ЗАРЭЧНЫ*

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Я пазнаёмілася з вельмі прыгожым хлопцам. Ну, проста вачэй нельга адвесці. Закахалася, можна сказаць, ужо ў першы дзень. Так было мне добра, калі цалаваў мяне. Я думала, што ўсё будзе гэтаксама цудоўна. А тут не.

Праз два тыдні мы сустрэліся на кватэры яго сябра. Я вельмі хвалявалася перад гэтай сустрэчай. Памылася, прыбралася. Падрыхтавалася, адным словам. З асалодай думала пра тое, як будзем у пасцелі, як будзе ён мяне атуляць сваімі пяшчотамі.

Пачаў, праўда, ад пацалункаў у губы, даволі хутка зрабіў сваю работу, так, што нават я і не паспела апамятацца, нічога не адчула. Але ж не адвярнуўся ад мяне і не заснуў, а працягваў далей забаву.

Я нават уцешылася. Ну, думаю, яшчэ і мне будзе прыемна. Вось цяпер дык пакахаемся! Я ведала, што ёсць такія тыпы мужчын, што загараюцца і канчаюць палавы акт вельмі хутка, але толькі першы раз. Кожны наступны раз могуць кахацца бясконца доўга. Дык спадзявалася я, што і тут здарыцца такое.

А ён меў ахвоту, ды нічога не мог з сабой зрабіць. Пачаў грабсціся ўва мне, заглядаць куды не трэба. Я быццам ужо перастала цікавіць яго. Апанавала яго толькі анатомія. Ён як бы вывучаў маё цела ад нізу.

Відаць было, што яму было прыемна, але я не адчувала ніякага задавальнення. Наадварот, успрымала гэта як праявы нейкай нездаровай асабовасці, дзівіяцы.

Пачаў дырыгаваць мною, як і што я павінна рабіць, і вельмі злаваўся, калі я рабіла штосьці не так, а па-свойму. Зусім зняволіў мяне, і мне захацелася хутчэй дахаты. Не імпанавалі ўжо ні яго сінія вочы, ні доўгія расніцы, ні пристойная постаць, ні загарэлае, прыгожае цела.

Чаму, чаму ён не дазваляў мне быць сабою? Чаму перастала яму хацецца, каб я яго ласкала, цалавала? Усе гэтыя звычайныя для такіх момантаў рэакцыі выразна пачалі яго дражніць. У пэўным моманце, калі я прытулілася да яго не так, як ён хацеў, у яго умомант усё апала, і ён са злосцю адвярнуўся ад мяне.

На шчасце, пазванілі ў дзверы. Гэта вярнуўся яго сябра, які вызваліў мяне з вельмі клапатлівай сітуацыі. Мне ўжо ўсяго адхацелася і я толькі чакала, калі ўжо скончыцца гэты спектакль.

Ї, уяві сабе, мілае Сэрцайка, яшчэ ён на мяне абразіўся. Не прыходзіць, не тэлефануе. Пайшоў ён к чорту! Мне ён тым больш непатрэбны. Праўда?

**Ірэна**

Ірэна! Ён сароміцца цябе, сароміцца ад сваёй нямоцы. Мо ён і хацеў бы, каб усё выйшла файна, як у Казановы, але што ж, калі не ў кожнага ёсць такія магчымасці, як у тваіх папярэдніх каханкаў. Але рабіў, бедалага, што мог. Можа, яго тыя анатамічныя доследы ўзбуджалі?.. Пэўна, што так, бо каб не падагравалі яго, то гэтак не рабіў бы. На жаль, не адчуў, што гэта табе не давала задавальнення. А павінен. Усё ж мо яшчэ не варта зусім парываць з ім, мо ён не заўсёды такім бывае. Падумай!

Часамі цяжкі пачатак варожыць добры канец.

**СЭРЦАЙКА**